

## 1997 ВЫПУСК 1

# БАЙРАМ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ - КІТАБ"

بســـم الله الرحمن الرحيم

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

Квартальнік

Беларускага згуртавання татараў-мусульман

"АЛЬ-КІТАБ"

№ 1

Менск 1997

РЭДАКТАРСКАЯ ГРУПА:

Я. Гучок,
І. Канапацкі,
С. Самуэль,
Я. Якубоўскі

Гэты нумар квартальніка "БАЙРАМ" выдадзены
коштам Саюза польскіх татараў

Надрукавана ў Менску

## Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары, супляменнікі-татары, усе мусульмане!

*Наша матэрыяльная сціпласць не дазваляе нам сустракацца часцей, чым тры-чатыры разы на год. І кожны раз мы не ўпэўнены, што наступная сустрэча адбудзецца.*

*Першы квартал 1997года мае тую асаблівасць, што няма ўпэўненасці, а ці не замерзнем мы ў гэту зіму. Тыя людзі, якія жывуць у сельскай мясцовасці, якія ацяпляюцца дрывамі, яшчэ могуць даць сабе раду, хоць бы на саначках прывязуць з лесу дровы. Але многія, ці не палавіна беларускіх татар жыве ў хатах, дзе паравое-вадзяное ацяпленне. Калі "старэйшы брат" за несваечасовую аплату адключыць газ, нафту, то замерзнем, памрэм ад смагі, бо і вадаправод адключыцца.*

*Мала хто з татар трымае жывёлу і як бы не варта турбавацца, ці хопіць сена для каровы, каб дажыла яна да свежай травы. Але ж не ад сваіх кароў большасць татар атрымлівае малако, а ад беларускіх каровак. І нам неабыякава тое, як ідуць справы ў нашых сяброў-беларусаў. А справы ідуць у краіне так, што разбаўляюць малако вадой настолькі, што тое малако і пазнаем толькі па назве на покрыўках бутэлек.*

*А ці можна пашукаць нешта суцяшальнае ў нашім жыцці? Відаць, можна. У студзені-сакавіку яшчэ не бядуюць бацькі, куды дзяваць дзяцей пасля заканчэння школы, дзе знойдуць работу выпускнікі тэхнікумаў і ўніверсітэтаў, куды пашлюць служыць навабранцаў.*

*Татары-вернікі лічаць, што ўсё залежыць ад Аллага, ад Бога. І выпрабаванні і для народа і для сям'і і кожнага чалавека прызначаны Аллагам. Праўда, мы-беларускія татары-сунніты не лічым, што чым нам горш, тым лепш для душы, што душэўныя і цялесныя мукі неабходны, бо яны ачышчаюць чалавечую істоту. Як тыя адэсіты лічаць, што лепш быць маладым, здаровым і багатым, чым старым, хворым і бедным.*

*Жывем надзеяй на тое, што 600-годзе нашага пасялення на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы не стане апошнім стагоддзем пражывання нашых нашчадкаў на гэтай зямлі. І калі амаль ніхто з вас не можа хоць бы сабе сказаць, што той ці тая татарка жывуць вельмі багата, а нейкая сотня-другая заможна, то я не магу і гэтага сказаць. Не ведаю я ні багатых, ні заможных татар на Беларусі.*

*І ўсё ж ёсць яшчэ нейкая радасць, якая прыходзіць у татарскія сем'і. Сцішыўся пажар вайны на Каўказе, на Балканах, дзе сярод іншых гінулі і нашы адзінаверцы-мусульмане. Некаторым сем'ям пашчасціла: ажаніўся сын ці выйшла замуж дачка, акрыяў ад хваробы дзядуля ці бабуля. Для татарскіх сямей ёсць яшчэ адна радасць, якая не вядома нашым суайчыннікам. Праўда, гэта радасць вельмі сумная-удалося пахаваць блізкага чалавека на мусульманскіх могілках-мізары. А калі пахаванне адбылося згодна з мусульманскім рытуалам, то тады татары кажуць, што памерлы быў нечым заслужаны ў Аллага.*

*Жывіце мусульмане доўга і няхай ваш шлях на гэтым свеце завершыцца на Іману.*

# У НАС ПАСЫНКАЎ НЯМА

*Сёлета спаўняецца 600 год, як на тэрыторыі Беларусі пасяліліся першыя татары. На працягу стагоддзяў яны былі адной з найбольш значных нацыянальных дыяспар і цалкам падзялілі лёс краю і народаў, з якімі жылі побач. Нягледзячы на актыўную асіміляцыю, змяншэнне агульнай колькасці, кампактныя паселішчы татар у некаторых раёнах краіны захаваліся і па сёння. Найбольш іх у Іўі, Смілавічах, Клецку, Менску, Слоніме, Капылі, Навагрудку.*

## З ЧАСОЎ НАЙДАЎНЕЙШЫХ ПА ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

Лёс татар на Беларусі вельмі цікавы. Як лічаць яны самі і сведчаць гістарычныя даныя, частка з іх трапіла сюды ў якасці ваеннапалонных, але цэлая група была спецыяльна запрошана князем Вітаўтам у сваю гвардыю, каб ахоўваць межы Вялікага Княства Літоўскага. Трэба сказаць, становішча гэтай катэгорыі было нават прывілеяваным. За верную службу яны атрымлівалі ганаровыя званні, тытулы, зямельныя надзелы... Напрыклад, у 1586 годзе стаў гаспадаром уладанняў у Ашмянскім павеце першы тутэйшы продак цяперашняга муфція Беларусі - старшыні Упраўлення мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь Ісмаіла Александровіча - Насыф Турчынавіч Александровіч. Больш таго, за адметныя заслугі кароль надаў яму тытул князя і зацвердзіў адпаведны герб. Падтрымалі гонар бацькі і сыны Насыфа – Мехмет і Юнус, пра што таксама сведчаць старадаўнія акты: за добрую службу каралю яны таксама атрымалі маёнткі ў Навагрудскім ваяводстве.

Дарэчы, Ісмаіл Мустафавіч правёў сапраўднае навуковае даследаванне і склаў досыць падрабязнае генеалагічнае дрэва старажытнага беларуска-татарскага роду Александровічаў. Праца атрымалася цікавай не толькі ў прыватным парадку для членаў згаданага сямейнага клана. Яе можна разглядаць і як своеасаблівы сацыяльна-гістарычны жыццяпіс шэрагу выхадцаў татарскай

меншасці на Беларусі на працягу цэлых стагоддзяў. Нават павярхоўнае знаёмства са шматлікімі адгалінаваннямі раскідзістай кроны дае ўяўленне і пра непахісную адметнасць, характэрную менавіта для прадстаўнікоў данай нацыянальнасці, і адначасна пра тое, як цесна ўпляліся іх лёсы ў лёс зямлі, на якой выпала жыць.

Ісмаіл Мустафавіч, як і іншыя яго супляменнікі, лічыць сваёй прарадзімай Крым. Але з'явіліся татары на Беларусі без жанчын, а таму пабралі ў жонкі мясцовых дзяўчат, вось і стаяць на "галінках дрэва" разам Зямейра і Алена, Айша і Марыяна, Фаціма і Ева... Нават зафіксаваны выпадак, калі адзін з нашчадкаў Насыфа Турчынавіча прыняў іншую веру - каталіцтва, дарэчы, і імя яго было - Іван. І хаця на працягу ўсяго перыяду пражывання татар на Беларусі асіміляцыя ішла з пастаянным паскарэннем, хаця яшчэ на самым пачатку "беларускай прапіскі" была страчана ўласная мова, канчатковага знікнення татар як асобнага, самастойнага этнасу не адбылося. Выстаяць дапамагла адметная рэлігія - Іслам, якая ўвесь час трымалася асабняком адносна астатніх канфесійных плыняў на тэрыторыі Беларусі. Так было калісьці, так засталося і цяпер. І можа таму, калі з'явілася магчымасць, згуртаванне татар будавалася ў першую чаргу менавіта на мусульманскай ідэалогіі і традыцыях, і сёння ў тандэме працуюць асветніцка-культурная суполка "Аль-Кітаб" і рэлігійнае аб'яднанне - муфціят, куды ўваходзяць 23 абшчыны. Вось толькі мячэці ёсць усяго ў некалькіх з іх. Як кажа Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ, гэта бяда і засмучэнне мясцовых мусульман. Урэшце, слова яму:

- Да вайны на Беларусі было 19 мячэцей, пасля вайны засталася толькі адна - у Іўі. Многія згарэлі падчас баёў і бамбёжак, іншыя знішчаны ўжо ў мірны час, як, напрыклад, у Менску - у 1962-м годзе. Вельмі шкада, бо стваралася мячэць на грошы, сабраныя самімі мусульманамі, была цікавым і прыгожым помнікам архітэктуры, пабудавана якраз на рубяжы стагоддзяў, у 1900-м.

У Менску ў тыя часы існавала цэлая татарская слабада - вуліца Малая Татарская, Вялікая Татарская, Мячэтная... Зараз мы атрымалі месца для будаўніцтва новай мячэці, склалі праект дакладна такі, як быў раней. Але трэба шмат грошай. Цэлы мільён долараў. Дарэчы,

участак нам адвялі там, дзе былі мусульманскія могілкі. Але зноўтакі - былі. Бо і па іх прайшліся бульдозерам...

У абшчынах толькі ў Іўі засталася адзіная старая мячэць. У 1994-м годзе мы дамагліся, каб нам вярнулі (праўда, іншую пабудову, не тую, што была раней) абшчынны дом у Слоніме, які прыстасавалі пад мячэць. І трэцяя – зусім новая, летась узведзеная за 30 кіламетраў ад Менска, у Смілавічах, дзе таксама жывуць татары, але, на жаль, сярод якіх ужо практычна не засталося тых, хто мог бы маліцца. Ёсць некалькі старых, але ім за восемдзесят, яны і хадзіць не здольныя. А так, у святы, едзем з Менска ў Смілавічы, туды ж накіроўваем і ўсіх прыезджых мусульман, калі тыя хочуць памаліцца.

Спадзяемся ў ліпені яшчэ на адну для нас прыемную падзею - аднаўленне мячэці ў Навагрудку, падобную на тую, што была там калісьці.

*- Ісмаіл Мустафавіч, як вы лічыце: кожны татарын абавязкова мусульманін?*

- Не, канешне. Згодна з перапісам 1989 года, татар - 12,5 тысячы. Яшчэ ёсць і азербайджанцы, казахі, узбекі, таджыкі, туркмены, курды, туркі - усіх разам, скажам так, патэнцыяльных мусульман тысяч 40 - 45. Але - патэнцыяльных. Семдзесят год савецкай улады не прайшлі бясследна. Наколькі я ведаю, у Татарстане нават з'явіліся татары-хрысціяне. Але сярод нашых такіх няма, а таму мы арыентуемся і спадзяемся на традыцыйных мусульман. За некалькі апошніх год ужо здолелі павялічыць колькасць абшчын. Але ведаем, засталіся яшчэ "неахопленыя" месцы досыць кампактнага пражывання татар, іншых мусульман: не маем дакладных адрасоў, каб да іх дайсці і дапамагчы арганізавацца. Дарэчы, для афіцыйнай рэгістрацыі абшчыны неабходна мець добраахвотную, падкрэслю, добраахвотную згоду не меней, як дзесяці чалавек.

*- Як вы сталі муфціем?*

- Вельмі проста: мяне выбралі на з'ездзе. Між іншым, я вельмі сумняваўся, перш чым даць згоду. Пасада адказная, на ёй павінен працаваць тэалагічна высокаадукаваны чалавек, які б дэтальна ведаў Кур'ан і яго тлумачэнне. Пры Польшчы быў муфцій у Вільні,

дык ён скончыў мусульманскі універсітэт Аль-Азхар у Егіпце.

На з'ездзе сталі глядзець, хто што ведае і можа. Мяне ж яшчэ ў дзяцінстве навучылі чытанню Кур'ана, малітвам па-арабску, з дзесяці год я ўжо наведваў мячэць - мы тады жылі ў Клецку, яшчэ пры паляках. Бацька мой быў імамам - муллой у абшчыне. Польскімі ўладамі гэта не каралася, наадварот, кожны тыдзень у школы прыходзілі і ксёндз, і рабін, і бацюшка, і імам. Натуральна, кожны з іх займаўся з дзецьмі свайго веравызнання. Ніякіх забарон не існавала.

Пасля скончыў політэхнічны інстытут, будаўнічы факультэт. Працаваў на Урале, на Магнітагорскім камбінаце, на цаліне. Затым вярнуўся ў Менск і чвэрць стагоддзя быў інжынерам тут. У 1989-м пайшоў на пенсію, часу вольнага стала шмат, а тут якраз арганізоўваўся "Аль- Кітаб". Я і заняўся гэтай справай.

*- Між іншым, наколькі я даведалася, і браты вашы, як кажуць, выйшлі ў людзі: Хасень Мустафавіч - доктар хімічных навук, Якуб Мустафавіч - доктар эканамічных навук. Таксама жывуць і працуюць у Менску. Скажыце, а вядомы літаратуразнавец Сцяпан Александровіч вам не сваяк?*

- Адназначна адказаць не магу, але магчыма. Ён з усходняй Беларусі, з Капыля, а мы, як я казаў ужо, - "заходнікі". Ведаю толькі, што калі адбылося аб'яднанне Беларусі, яны нас папярэджвалі, каб мы нідзе не прызнаваліся за сваякоў. Бо тыя дагэтуль у дакументах пазначалі, што за мяжой сваякоў не маюць. А тут раптам знайшліся. Натуральна, савецкая ўлада такога не даравала б. Гэта сёння я магу не хаваць, што яшчэ адзін мой брат - Адам жыве ў Нью-Йорку і служыць там імамам. Я нават ездзіў да яго ў госці. Там таксама ёсць аб'яднанне татар, выхадцаў, так бы мовіць, з Вялікага Княства Літоўскага - менавіта з Беларусі, Польшчы і Літвы. Я шчыра вітаю іх праз наш квартальнік.

*- Ісмаіл Мустафавіч, а ці шмат у вашым аб'яднанні моладзі?*

- На жаль, малавата, што нас вельмі турбуе. Мы арганізавалі некалькі нядзельных школ: у Іўі, Гродне, Слоніме, Смілавічах, Ляхавічах, Навагрудку. Там, дарэчы, цалкам бясплатна выкладаюць

студэнты, якія прыехалі вучыцца на Беларусь з арабскіх краін. Але і гэтага недастаткова. Ведаеце, адбіваецца нават тое, што ў татар шмат змешаных шлюбаў, а таму можа ўзнікнуць сумненне, ці пасылаць такое дзіця вучыць Кур'ан.

*- Гэтаму неяк перашкаджаюць мусульманскія правілы?*

- Не, не. Якраз мы не супраць. Я маю на ўвазе пэўныя непаразуменні выключна ў сям'і, дзе адзін з бацькоў немусульманін. Мы ж ажыццяўляем навучанне толькі на добраахвотных пачатках. Цікава, што ўжо ёсць тры выпадкі, калі беларусы прынялі Іслам, дарэчы, усе яны людзі адукаваныя. А працэс прыняцця нашай рэлігіі не складаны: трэба ўсяго вымавіць адну фразу...

Канешне, мы спадзяемся на адраджэнне нацыі і рэлігіі. Трэба выводзіць людзей з шматгадовай спячкі, вось будзім - выдаем часопіс, газету, дасылаем іх у абшчыны. Калі б не было надзеі, то проста апусцілі б рукі і не працавалі. А так усё ж такі спадзяемся. Вось ужо заўважылі ў нядзельных школах некалькі хлапчукоў, якія сапраўды цягнуцца да гэтай справы. Трое цэлы год вучыліся ў Стамбуле на спецыяльных курсах і зараз ведаюць Кур'ан проста дасканала, а ім усяго па 15 - 16 гадоў. Трэба шмат працаваць з людзьмі, бо, на жаль, у многіх, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, усё менш і менш застаецца духоўнага пачатку.

## СТАРАДАЎНЯЯ КУЛЬТУРА - ЯЕ ТРЭБА НЕ ТОЛЬКІ ЗАХОЎВАЦЬ, АЛЕ І РАЗВІВАЦЬ

Менавіта такую мэту ставіць Беларускае аб'яднанне татар-мусульман "Аль- Кітаб". Пра яго дзейнасць больш падрабязна расказвае віцэ-прэзідэнт, член муфціята вучоны-гісторык Ібрагім КАНАПАЦКІ.

- У 1989 годзе ў Менску было створана гарадское грамадска-культурнае аб'яднанне - згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Адразу планавалася рэспубліканская арганізацыя, але некаторыя з нас вельмі спяшаліся і крышачку "напужалі" тагачаснае кіраўніцтва Фонду культуры. А таму было прапанавана спачатку ствараць суполкі на месцах, чым мы і заняліся: Гродна - гарадскі "Кітаб" і вось сталіца. Але ў 1991-м годзе на з'ездзе ў Іўі зноў узнікла думка пра рэспубліканскае аб'яднанне. І тады яно было афіцыйна

зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі. Сёння мы маем сваю сімволіку і сцяг, дарэчы, вельмі адметны: бел-чырвона-белы з зорачкай і паўмесяцам - маладзіком. Гэта наша гістарычная сімволіка, сцяг Грунвальда. Зараз да 600-годдзя хочам зрабіць падобныя значкі, але, можа, з-за вядомых абставін прыйдзецца насіць у кішэні і пасведчанне: маўляў, сімволіка афіцыйна зацверджана.

Канешне, за тыя гады, калі ўсё знішчалася і разбуралася, згублена шмат. Мне, як гісторыку, які займаецца даследаваннем сапраўднай белай плямы ў гісторыі нашага невялікага народа - савецкім перыядам, гэта зразумела асабліва. Што было ў XIV, XV, XVI, XVII, XVIII, XIX стагоддзях - да пачатку 1917 года, вядома. Мы ўжо перааралі гэтую дзялянку ўздоўж і ўпоперак. Але так і застаецца цьмяным, як адбылося, што ў Савецкай Беларусі, дзе жыло 4 тысячы татар, яны не ўзнялі голас, напрыклад, калі руйнаваліся мячэці. Зараз я працую з архівамі НКУС і бачу: проста святароў ставілі да сценкі ці не пагалоўна. У верасні ў Польшчы адбудзецца канферэнцыя, прысвечаная данай тэме (у рамках 600-годдзя), то я маю намер там выступіць з дакладам.



*Члены татарскага таварыства ў Менску*

Калі ствараўся "Аль-Кітаб", яго заснавальнікі разумелі: праблем наваліцца шмат. На той час ішоў працэс беларускага адраджэння. І ў яго рэчышчы распачалі сваю дзейнасць і мы. Гісторыя татар вельмі цікавая. Разам з маскоўскім гісторыкам С. Думіным напісана кніга "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць". І хаця ўжо існавала шмат разнастайных даследчых прац, асабліва ў Польшчы, на тэрыторыі якой засталася большая частка татар, вывучаць усё яшчэ ёсць што.

Нягледзячы на тое, што за гады сталінскіх рэпрэсій генафонд татар фактычна быў вынішчаны, як, урэшце, і іншых народаў, апошнім часам пасля ўтварэння арганізацыі стала ясна: людзі пацягнуліся да нацыянальнай ідэі. Хаця, можа, яна ў нас і не так моцна выяўлена, бо мы даволі спецыфічны народ - славянамоўныя цюркі, якія сваю мову страцілі некалькі стагоддзяў назад. Але застаўся стрыжань, які і дазволіў захавацца нам самім і не згубіць канчаткова ўласную культуру і традыцыі - гэта наша рэлігія, якая адначасна і лад жыцця мусульман.

Што ўдалося зрабіць "Аль-Кітабу"? Складзены спецыяльныя планы святкавання 600-годдзя татарскага асадніцтва на Беларусі. Нешта з намечанага ўжо рэалізавана. Нямала яшчэ трэба зрабіць. Пад кіраўніцтвам віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча створаны спецыяльны арганізацыйны камітэт, які і ўзяў на сябе ўвесь асноўны клопат па падрыхтоўцы і правядзенні адпаведных мерапрыемстваў.

Мы правялі тры міжнародныя канферэнцыі, тэмы якіх тычыліся розных бакоў жыцця татар на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Дзіўна, але знаходзяцца людзі, што папракаюць нас: нашто, маўляў, гэтыя вашы канферэнцыі, лепей бы збіралі людзей і, скажам, пелі ці скакалі. Але мне здаецца (і са мной згодныя многія), у першую чаргу важна разабрацца: хто мы і што мы на гэтай зямлі, каб даць, калі хочаце, навукова абгрунтаваную канцэпцыю далейшага развіцця нашага невялікага народа. З гэтай жа мэтай, зноў-такі ўпершыню, ствараецца спецыяльны энцыклапедычны даведнік на 8 000 артыкулаў. Ініцыятар выдання - член праўлення нашага згуртавання Якуб Якубоўскі. Так што, лічу, працэс развіваецца, ідзе ўшыркі.

У БЕЛАРУСІ ПАСЫНКАЎ НЯМА

Сапраўды, 600 год - тэрмін. Усяго хапіла на доўгім гістарычным шляху татар на Беларусі: былі ўзлёты, былі падзенні, страты. Але прайшоўшы праз усе выпрабаванні, народ захаваўся. І гэта, бадай, галоўнае. Сёння ў беларускіх татар звычайна імёны цюркскія, а прозвішчы беларускія, і ў тым няма нічога дзіўнага, бо зямля, на якой яны жывуць ужо стагоддзі, даўно стала ім роднай, а яны - яе сапраўдныя родныя дзеці. У Беларусі пасынкаў няма.

Галіна УЛІЦЁНАК.

# "ЛІЧАЦЬ НАС БРАТАМІ СВАІМІ"

Лёс распарадзіўся так, што да бальшавіцкага перавароту татарам жылося ў нас крыху лепш, чым прадстаўнікам карэннага насельніцтва – яны стаялі на вышэйшай прыступцы ў грамадстве. Вялікі князь Вітаўт запрасіў татараў на службу ў Вялікае Княства Літоўскае ахоўваць дзяржаўныя межы. І з таго часу татары верай і праўдай служылі новай айчыне і ніколі паміж імі і беларусамі не было звадак. Мала таго: татары выступалі нават супраць сваіх адзінаверцаў, калі тыя прыходзілі з іншых краін, каб рабаваць памежныя тэрыторыі Вялікага Княства. У Літоўскай метрыцы захаваўся іх ліст да захопнікаў наступнага зместу: "Ні Бог, ні Прарок не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў і шаблямі нашымі забіваем рабаўнікоў, а не братоў нашых. Заставайцеся за Волгаю, бо мы ля Вільні будзем кроў праліваць за літоўцаў, якія лічаць нас братамі сваімі". Вядома таксама, што ў Грунвальдскай бітве татарскія харугвы біліся побач з беларускімі, а ў час вызваленчых рухаў на Беларусі ў 1794, 1831, 1863 гг. многія татары былі на баку паўстанцаў, за што цяжка паплаціліся.

Даследчык татарскай гісторыі А.Мухлінскі ў сваёй працы "Исследование о происхождении и состоянии литовских татар" (1857) пісаў, што заканадаўства раўняла татараў з дваранамі. Іх

надзялялі льготамі і маёнткамі, якія пераходзілі ў спадчыну да нашчадкаў, за што патрабавалася ад іх ладзіць ваенныя паходы за свой кошт. А. Мухлінскі дае наступную характарыстыку этнічна-маральнаму вобліку татараў: "Яны ў большасці выпадкаў высокага росту, стройныя, чарнавалосыя, смуглатварыя, з правільнымі рысамі твару і высакародныя ў абыходжанні, разважлівыя ў размовах, гасцінныя, рахманыя, стрыманыя. Словам, не падобныя зусім да мангольскіх плямёнаў. У маральных адносінах яны сумленныя, добрыя, ласкавыя, жывуць у згодзе з іншымі жыхарамі, але не зліваюцца з імі. Амаль ніколі не былі выкрытыя ў крымінальных злачынствах. У хатнім побыце яны міралюбівыя, рэдка паміж сабой сварацца і варагуюць".

Акрамя ваяроў, беларускія (літоўскія) татары былі і чыноўнікамі, і земляробамі, і агароднікамі, і каняводамі. У XIX стагоддзі, напрыклад, у Менску, дзе колькасць татараў даходзіла да чатырохсот душ, татары-каняводы валодалі на берагах Свіслачы сенажацямі. У Пінску яны выраблялі саф'ян са скуры, у Вільні прадавалі палатно і ніткі, у Наваградку займаліся возніцтвам. Вядома, што ў савецкі час многія татары працавалі гарбарамі. Мужнасцю, бескарыслівасцю, шанаваннем законаў праславіліся многія татарскія дваранскія роды на Беларусі, да якіх адносіліся Адамовічы, Базарэўскія, Бараноўскія, Беляковы, Бучацкія, Сабалеўскія, Сулькевічы, Халецкія, Юзефовічы, Янушэўскія. Шляхта-татары былі людзьмі адукаванымі, некаторыя з іх, акрамя еўрапейскіх моў, ведалі арабскую і сваю родную – як знак інтэлігентнасці і самапавагі. Некаторыя канчалі медрэсэ – духоўныя вучылішчы.

Рэлігійнае і традыцыйнае жыццё татараў ва ўсе часы, акрамя савецкіх, не прыгняталася. Гэты народ жыў абшчынамі, маліўся ў сваіх мячэцях (джамі), вучыўся ў хатніх школах арабскаму пісьму і Ісламу, меў і шанаваў свае могільнікі (мізары), захоўваў доўгі час свой нацыянальны строй. Па сведчанні П.Шпілеўскага, у сярэдзіне XIX стагоддзя касцюм татарскага мужчыны нагадваў касцюм мешчаніна: ялавыя боты, шэры доўгі сурдут і шапка з казырком, у той час, як жанчыны яшчэ прытрымліваліся сваіх стракатых шляфрокаў і чырвоных хустак.

Сёння адзенне беларускіх татараў не адрозніваецца ад еўрапейскага. Але некаторыя адметныя татарскія элементы адзення засталіся. Як сведчаць даследнікі, беларусы і палякі перанялі ў татараў бурку, жупан, канфедэратку, халат, андарак, намітку, боты і так званыя слуцкія паясы, а з імі ўвайшлі ў беларускі слоўнік назвы гэтых прадметаў. Яшчэ раней у цюркаў-гунаў былі перанятыя порткі, якія ў іх зваліся штанамі.

А вось мову, атабарыўшыся на беларускай зямлі, татары праз два-тры пакаленні пераймалі мясцовую. Праўда, уносячы ў яе і свае словы, якія ахвотна засвойвалі беларусы. Такім чынам, у беларускай мове з'явілася каля шасцісот татарскіх слоў.

Сталінскія рэпрэсіі і войны скарацілі колькасць татарскага насельніцтва на Беларусі. Засталася жменька – 12,5 тысячы чалавек. Але гэтая жменька паступова адраджаецца. У гэтым заслуга не толькі актывістаў адраджэння, але і новага стаўлення дзяржавы да царкоўных пытанняў (гл. Закон РБ "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацый", "Аб святочных днях у РБ").

Напачатку 90-х гадоў адраджэнне, нібы зыркае полымя, ахапіла асяроддзе беларускіх татараў. Асветную, выдавецкую і навукова-даследчую працу распачалі ўтвораныя ў 1989 годзе пад эгідай Беларускага фонду культуры менскае і гарадзенскае татарскія згуртаванні, якія атрымалі назву "Аль-Кітаб" у Менску і "Кітаб" у Гародні. У гэтых аб'яднаннях былі створаныя камісіі па гісторыі, культуры, пытаннях рэлігіі, міласэрнасці, рабоце сярод моладзі, умацаванні сувязяў з татарамі замежжа. Пачаліся клопаты аб захаванні на Беларусі татарскіх помнікаў духоўнай і матэрыяльнай культуры і напісанні гісторыі татараў на Беларусі, якая збіраецца па крупінках з літаратурных крыніц. Гэтая задача запатрабавала неадкладнага наладжвання выдавецкай справы, правядзення навуковых канферэнцый.

Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы" адбылася ў 1993 г. і прысвячалася 600-годдзю татарскага асадніцтва, юбілей якога адзначаецца сёлета. Падставай для святкавання гэтай даты

паслужыў запіс Яна Длугаша ў ягонай "Хроніцы" аб тым, што татарскія паселішчы ў ВКЛ былі заснаваныя менавіта ў 1397 г. Канферэнцыя была арганізаваная сіламі згуртавання "Аль-Кітаб" пры падтрымцы беларускіх навукоўцаў, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. На ёй былі разгледжаныя праблемы этнічнага, сацыяльна-культурнага і палітычнага развіцця татараў на тэрыторыі Беларусі, рэлігійнае і культурнае жыццё і старонкі ваеннай гісторыі. Другая міжнародная канферэнцыя "Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы, яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі" (1995) прыцягнула значную ўвагу сусветнай грамадскасці. На ёй выступілі дэлегаты з Турцыі, Прыбалтыкі, Егіпта, Татарстана, Нігерыі, Расіі, Польшчы, Швейцарыі, ЗША і іншых краін.

З 1991 г. у Менску згуртаваннем "Аль-Кітаб" выдаецца часопіс "Байрам", у якім актыўна друкуюцца і беларускія даследнікі (А.Грыцкевіч, Л.Лыч, Г.Кахаиоўскі, Л.Побаль, Э.Іофэ, А.Бяляцкі, В.Дадзіёмава, Я.Гучок і іншыя). Часопіс знаёміць з гісторыяй і побытам беларускіх татараў, мусульманскімі справамі ў свеце. Значная плошча адводзіцца пад пробныя артыкулы "Энцыклапедычнага даведніка для беларускіх татараў", пад "Крымска-татарска-беларускі слоўнік", пад тэкст свяшчэннай кнігі "Кур'ан". Публікуюцца таксама "Літаратурныя старонкі", матэрыялы злабадзённага характару, напрыклад, пра Чачню, старонкі календара на кожны месяц, успаміны і перапіска сучаснікаў і г.д. Да сказанага дадам, што на Беларусі ўжо адбыліся два мусульманскія міжнародныя з'езды. У гутарцы з галоўным рэдактарам "Байрама" Якубам ЯКУБОЎСКІМ працягваецца тэма татарскага адраджэння на Беларусі.

– *Якуб Адамавіч, раскажыце пра будні Вашага згуртавання "Аль-Кітаб".*

– Збіраемся на сходкі два разы на тыдзень. Наведванне іх неабавязковае, бо мы не звязаныя ні членствам, ні складкамі. Хочаш – прыходзь, хочаш – не прыходзь. Наш актыў, а гэта звычайна чалавек 30–40, прысутнічае па маральным абавязку. На сходах абмяркоўваем праблемы і справы, у тым ліку выдавецкія і звязаныя

з работай камісій. Заслухоўваем паведамленні людзей, адказных за розныя ўчасткі дзейнасці згуртавання, а таксама гутарым з гасцямі і асобамі, якім ёсць пра што расказаць і што сказаць. У канцы бываюць заняткі па гісторыі Іслама і крымска-татарскай мове.

*– У Вас выходзіць часопіс пад назвай "Байрам". А што азначае гэтае слова?*

– "Байрам" у перакладзе з татарскай мовы азначае "свята". Паколькі ў нас сродкаў няма, то выходзіць ён пакватральна. Значыць, чатыры разы на год з нагоды выхаду чарговага нумара ў нас і бывае свята.

*– А чаму "Байрам" выходзіць на беларускай мове?*

– Таму што большасць нашых чытачоў – татары, родная мова якіх беларуская. Такіх у нас, паводле апошняга перапісу насельніцтва, налічваецца восем тысяч. Дзве тысячы адзінаверцаў пераехала на Беларусь з Паволжа, іх родная мова – татарская. І толькі дзве з паловай тысячы нашых людзей гавораць па-расійску і на іншых мовах, а гэта меншасць. Акрамя таго, у нас так заведзена, што кожны татарын, які тут жыве, павінен ведаць беларускую мову. Аднак хваліцца татарыну, што ён ведае гэтую мову, часам лепш за беларуса, нягожа. Ён павінен быць сціплым і ўступіць месца першым, менавіта беларусам, бо яны на тысячу гадоў раней пасяліліся на гэтай зямлі і тым самым далі мажлівасць тут жыць татарам. Часам ад паволжскіх або крымскіх татараў можна пачуць папрок, што вось вы не ведаеце роднай мовы. На яго я адказваю так: "Мы даўно карыстаемся роднай нам беларускай мовай, гаворым і на рускай, разумеем польскую і ўкраінскую. Але галоўнае, мы выхоўваем сваіх дзяцей сумленнымі і працавітымі людзьмі, якія маюць гонар называцца татарамі ў любых абставінах. А што да татарскай мовы, то прыйдзе час і ў нас будуць свае татарскія школы".

*– Наколькі мне вядома, татары з беларусамі заўсёды жылі дружна.*

– Наогул, так. Але вось праз школу і ў царскія часы, і цяпер праводзіцца думка, што наш народ – эксплуататар, ён трыста гадоў трымаў славян у ярме. У падтэксце гэта гучыць, што, маўляў, наша сённяшняе адставанне ад еўрапейскіх цывілізаваных краін

абумоўліваецца татара-мангольскім ярмом, ад якога дагэтуль не акрыялі. Такое адмоўнае стаўленне да татараў праз падручнікі перадалося і на Беларусь, хоць тут татараў нават трыццаць дзён не было. Але самі беларусы нас ні ў чым не папракаюць.

– *Чым адрозніваецца "Байрам" ад беларускіх выданняў?*

– Сваёй тэматыкай. Гэта гісторыя беларускіх татараў і падзеі, да якіх яны прычыніліся; асновы Ісламу, даследнікі татарскай гісторыі і культуры, заняткі і рамёствы, жыццё ў Татарстане, крымскія, сібірскія, астраханскія, беларускія і польскія татары; татары далёкага замежжа, слоўнік татарскіх найбольш ужывальных слоў і выразаў, татарская кухня, мастацкая творчасць і г.д. А па сваёй спецыфіцы гэты часопіс сямейны. У нас няма сіл і жадання падбіраць рафініраваных аўтараў.

– *Што Вы хочаце гэтым сказаць?*

– Хачу сказаць, што мы не хочам моцна адрывацца ад мас. У нас кола аўтараў шырокае, шмат пішуць і простыя людзі – папростаму.

– *А хто вашы аўтары?*

– Татары, беларусы і яўрэі.

– *Што у вас робіць рэдакцыйная група?*

– Дапамагае ў апрацоўцы і навуковым рэдагаванні тэкстаў. Усе добраахвотнікі. Дапамагаюць бескарысліва.

– *Што ў вас яшчэ выходзіць, акрамя "Байрама"?*

– Часопіс з рэлігійным накірункам "Жизнь" – на рускай мове, бо ён рассылаецца за межы Беларусі, у тым ліку і ў арабскія краіны. Жыццё ў ім паказваецца і такое, якое яно ёсць, і такое, якім яно павінна быць.

– *Як ідзе ваша праца над энцыклапедыяй для беларускіх татараў?*

– Слоўнік энцыклапедыі разлічаны на 8–9 тысяч артыкулаў разам са спасылачнымі. Спецыфіка выдання заключаецца ў адборы артыкулаў. У нас даецца тое, што не прачытаеш у іншых энцыклапедыях. Напрыклад, мы плануем серыю артыкулаў па асновах мусульманскай веры, бо спадзявацца, што гэта будзе зроблена беларусамі ці летувісамі, не даводзіцца. Мусульманскімі

і цюркскімі краінамі і народамі мы больш цікавімся – скажам, якутамі або малдаўскімі гагаузамі. Набярэцца, мабыць, пяцьсот–шэсцьсот мусульманскіх народаў, пра якіх раскажа нашае выданне. А наогул будуць артыкулы пра кожную краіну ў свеце, у якіх будзе адзначана, дзе там жывуць мусульмане. Не будзе абыйдзена і гісторыя ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі. У нас будуць артыкулы пра ўсіх князёў, каралёў і цароў, якія тады панавалі. Пра Івана Жахлівага, які па маці паходзіў з татараў і які ў 1552 годзе, захапіўшы Казань, атруціў там ваду. Усяго ж будзе прысвечана гістарычным асобам каля двухсот артыкулаў. Шэраг артыкулаў будзе прысвечаны тэме татарскай этыкі і маралі, напрыклад, пра шанаванне бацькоў або пра тое, як мусульманскае права вучыць ставіцца да сірот. У нас лічыцца ганьбай, калі старыя бацькі трапляюць у прытулак для састарэлых, а дзеці – у сіроцкія дамы. Абавязкова асірацелых дзяцей павінен нехта выратаваць і выхаваць. Пры напісанні артыкулаў на рэлігійныя тэмы ў якасці ўзораў мы бяром шматтомную касцельную энцыклапедыю – выданне, якое з'яўлялася ўласнасцю беларускага дзеяча ксяндза Адама Станкевіча і якое зараз знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Карыстаемся і яўрэйскай энцыклапедыяй, а пры асвятленні пытанняў праваслаўнай веры – Беларускім царкоўным календаром.

*– Вось Вы далі артыкул пра Канстанціна Езавітава. Ён татарын?*

– Мы далі яго таму, што ён выдатны дзеяч беларускага адраджэння. Ведаеце, той, хто надта скараецца і схіляецца перад уладамі, – не надзейны ў жыцці чалавек, пра такога і пісаць не варта.

*– Як Вы робіце татарскі каляндар?*

– Па ўзоры Заходнебеларускага. Мы працягваем традыцыі татараў, якія жылі ў Заходняй Беларусі, Польшчы і Літве.

*– Ваша праца грунтуецца на дэмакратычнай аснове?*

– На іншай і не магчыма было б.

Распытвала Ірына КРЭНЬ.
З газеты "НАША СЛОВА", №4, 1997 г.

***

# Кур'ан

## Сура восьмая – Аль Анфаль

(Ваенныя трафеі)

1. У імя Аллага, Міласцівага, Міласэрнага!
2. І пытаюцца яны ў цябе адносна трафеяў на вайне. Адкажы: "Трафеі ўсе – у распараджэнні Аллага і прарока". А таму бойцеся гневу Аллага і паміж сабой майце добрыя адносіны. Павінуйцеся Аллагу і Яго прароку, калі вы вернікі.
3. Бо вернікі – толькі тыя, сэрцы якіх калоцяцца пры ўпамінанні Аллага, чыя вера ўмацоўваецца, калі ім чытаюць пра знаменні Яго; і хто надзею ўскладае на Уладыку свайго.
4. Хто пастаянна чыніць малітвы і (шчодра) раздае з багаццяў, што Мы далі на патрэбнае (у гэтым жыцці).
5. Такія – тыя, хто, сапраўды, паверыў. Ім – ступень (адзнакі) ад іх Уладыкі, прабачэнне і шчодрыя дарункі.
6. Так, як Уладыка твой вывеў цябе з дому твайго, як было належна, тады як частка вернікаў была супроць гэтага.
7. З табою аспрэчвалі ісціну (Гасподню), калі яна была ўжо відавочна – як быццам іх гналі на смерць і ей у твар яны глядзелі.
8. Калі Гасподзь вам абяцаў, што вам перадасць у рукі адзін з двух атрадаў, і вы жадалі, каб вам дастаўся той, што ішоў бяззбройны па дарозе (нясучы вялікую паклажу дабра), але Аллагу ўгодна было ўстанавіць ісціну праз слова Сваё і знішчыць няверных.
9. Каб мог Ён устанавіць ісціну, хоць бы вінаватыя і былі супроць гэтага.
10. Калі вы прасілі Уладыку вашага аб дапамозе, і Ён адказаў вам, гаворачы: "Я пашлю ў дапамогу вам тысячу анёлаў, што будуць ісці адзін за другім."

11. І Аллаг сказаў гэта толькі як добрую вестку, каб супакоіць вашы сэрцы. Але дапамога прыходзіць толькі ад аднаго Аллага; сапраўды, Магутны і Мудры Аллаг.

12. Ён паслаў сон на вас, як знак бяспекі ад Яго, і паслаў Ён на вас ваду з хмар, каб гэтым ачысціць вас і адмыць вас ад нечысці Шайтана, і ўмацаваць сэрцы вашы, і гэтым умацаваць вашы ногі.

13. Калі Уладыка твой абвясціў анёлам, кажучы: "Я з вамі; даруйце моц вернікам. Я ў сэрцы няверных усялю страх. Біце іх у шыю і сячыце па кончыках усіх пальцаў."

14. Гэта таму, што працівіліся яны Аллагу і Яго прароку. А хто працівіцца Аллагу і Яго прароку, да таго, сапраўды, суровы ў пакаранні Аллаг.

15. Гэта – вам пакаранне, сапраўды, пакаштуйце яго і ведайце, што прыгатавана для няверных у пекле.

16. О вы, вернікі, калі вы спаткаеце магутнае войска няверных, якое ідзе супроць вас, не паварочвайцеся спіной да іх.

17. І калі хто ў той дзень павернецца спінай да іх, – акрамя як мяняючы распалажэнне для бою ці паварочваючыся, каб злучыцца з другім атрадам, – сапраўды, наклiча на сябе гнеў Аллага, і пекла будзе жытлом яго. І дрэннае гэта прыбежышча.

18. Не вы іх забілі, а Аллаг забіў іх. Калі ты кінуў (жменю пяску), кінуў не ты, а кінуў Аллаг, каб падвергнуць верных выпрабаванню знаменнем добрым ад Сябе. Аллаг, сапраўды, усё чуе і ўсё ведае.

19. Так адбылося гэта, і ведай, што Аллаг пазбаўляе сілы і задумкі няверных.

20. Калі вы шукалі перамогі, сапраўды, перамога прыйшла да вас. І калі вы ўстрымаецеся, будзе гэта лепш для вас; але, калі вы вернецеся да вайны, вернемся і Мы таксама. І войска вашае не дапаможа вам, якім бы шматлікім не было яно, і ведайце, што Аллаг з вернікамі.

يَاَيُّهَا الَّذِيْنَ اٰمَنُوْآ اِذَا لَقِيْتُمْ فِئَةً فَاثْبُتُوْا وَاذْكُرُوا
اللّٰهَ كَثِيْرًا لَّعَلَّكُمْ تُفْلِحُوْنَ ﴿٤٦﴾
وَاَطِيْعُوا اللّٰهَ وَرَسُوْلَهٗ وَلَا تَنَازَعُوْا فَتَفْشَلُوْا وَتَذْهَبَ
رِيْحُكُمْ وَاصْبِرُوْا اِنَّ اللّٰهَ مَعَ الصّٰبِرِيْنَ ﴿٤٧﴾
وَلَا تَكُوْنُوْا كَالَّذِيْنَ خَرَجُوْا مِنْ دِيَارِهِمْ بَطَرًا وَّ
رِئَآءَ النَّاسِ وَيَصُدُّوْنَ عَنْ سَبِيْلِ اللّٰهِ وَاللّٰهُ
بِمَا يَعْمَلُوْنَ مُحِيْطٌ ﴿٤٨﴾

21. О вы, вернікі, павінуйцеся Аллагу і Яго прароку і не адварочвайцеся ад яго, калі вы слухаеце (тое, што ён чытае з Кур'ана).

22. Не будзьце вы падобныя да тых, хто кажа: "Мы чуем", а самі нічога не чуюць.

23. Бо найгоршыя з (усіх зямных) істот у руцэ Аллага тыя, хто глухія, і нямыя, і нічога не разумеюць.

24. І калі б вядома было Аллагу што-небудзь добрае аб іх, сапраўды, падараваў бы Ён ім слых. І калі б Ён падараваў ім слых, яны б усё роўна адвярнуліся б і адхіліліся ад Яго (знаменняў).

25. О вы, хто верыць! Адгукніцеся на заклік Аллага і прарока, калі заклікае вас да таго, што вас, сапраўды, адухаўляе і накіроўвае. І ведайце, што Аллаг заўсёды стаіць паміж (зямнымі страсцямі) чалавекам і (тайнымі памкненнямі) яго душой. І што вы будзеце ўсе сабраныя да Яго.

26. І бойцеся мяцяжоў і смут, што (паявіўшыся) уцягваюць не толькі тых з вас, хто чыніць зло. І ведайце: Аллаг суровы ў пакаранні.

27. І згадайце, калі вы былі нешматлікімі і лічыліся слабымі ў краіне і прышлі туды высцерагаючыся, што вы будзеце схоплены і знішчаны; але Аллаг абараніў вас і ўмацаваў з дапамогай Сваёй і паслаў вам многа добрага, каб вы былі ўдзячнымі.

28. О вы, вернікі, не будзьце вераломнымі перад Аллагам і прарокам, і не парушайце свядома абавязак ваш.

29. І ведайце, што маёмасць вашая, і дзеці вашыя нішто іншае, як выпрабаванне, і што вялікая ўзнагарода ёсць узнагарода Аллага.

30. О вы, вернікі, калі вы баіцеся Аллага, Ён даруе пашану вам і ачысціць вас ад зла і прабачыць вам; і Аллаг – Уладыка вялікай шчодрасці.

31. І ўспомні час, калі няверныя рабілі супроць цябе злыя задумкі, шукаючы сродак зачыніць цябе ў вязніцу ці забіць цябе або выгнаць цябе. Яны задумвалі і Аллаг таксама задумваў, і няма задумак лепшых чым задума Аллага.

32. І калі аяты Нашы чытаюцца ім, яны кажуць: "Мы чулі. Калі б мы хацелі, безумоўна, маглі б мы сказаць падобнае гэтаму. Гэта – толькі байкі старадаўніх (якія адышлі ў небыццё)."

33. І згадай, як яны сказалі: "О Аллаг, калі гэта Ісціна, што зыходзіць ад Цябе, пашлі на нас з неба дождж з камянёў ці ка́рай цяжкай пакара́й".

34. Але не пакарае іх Аллаг, пакуль ты будзеш знаходзіцца сярод іх, не будзе іх караць Аллаг, калі сярод іх ёсць такія, хто просіць літасці.

35. І якое ж ёсць у іх апраўданне цяпер, каб Аллаг не караў іх, калі яны не пускаюць людзей да Свяшчэннай Мячэці, між тым як яны не сапраўдныя ахоўнікі яе. Сапраўдныя ахоўнікі яе толькі тыя, якія праведныя, але большасць іх не ведае гэтага.

36. Малітва іх пры гэтым Доме – толькі свіст і ляcканне далонямі (і ў Дзень Божага Суда ім будзе сказана: "Адведайце пакаранне за тое, што (на зямлі) бязглуздзіцу чынім!")

37. Сапраўды, няверныя трацяць багацце сваё на тое, каб адхіліць людзей ад шляху Аллага. І, безумоўна, яны будуць працягваць рабіць гэта; але затым стане яно прычынай шкадавання для іх, і тады яны будуць адолены. І будуць няверныя сабраны ў пекле.

38. Каб мог Аллаг адлучыць дрэнных ад добрых, і каб скінуць нядобрых адзін на аднаго, усіх разам у кучу, і зрынуць іх у пекла. Сапраўды, будуць мець яны страту.

39. Скажы няверным: калі яны раскаяцца, мінулае будзе даравана ім. Але калі яны зноў вернуцца да мінулага, тады, сапраўды, будуць ім прыкладам людзі, якія былі перад імі.

40. Змагайцеся з імі да таго часу, покуль не будзе больш смуты і прыгнёту, і не ўсталюецца цалкам вера ў Аллага. Але калі яны сябе стрымаюць... (даруе ім Аллаг), – бо бачыць Ён, што чыняць яны.

41. А калі яны (да бязбожжа) вернуцца, Аллаг вам будзе апекуном. І гэта – найлепшы Апякун і Абаронца.

42. І ведайце, якія б не былі вашы трафеі, пятая частка іх павінна пайсці Аллагу і Прароку, і родзічам, і сіротам, і бедным, і вандроўнікам, калі вы верыце ў Аллага і ў Адкравенне, што Мы паслалі Нашаму рабу Адметны дзень (бітвы пры Бадры), у дзень, калі сутыкнуліся два войскі – і Аллаг мае ўладу рабіць усё.

43. Тады стаялі вы на бліжнім баку даліны, яны ж – на далёкім баку. А караван знаходзіўся ў той даліне. І калі б прызначылі вы час сустрэчы, то вы б у часе разышліся. І гэта – таму, каб Аллагу завяршыць тую справу, што Ім была задумана. І каб той, каму было прызначана загінуць, мог памерці толькі пры знаменні ясным, і каб той, хто жыць застаўся, толькі пры знаменні ясным мог існаваць. Аллаг, сапраўды, і чуе (усё) і ведае!

44. Тады (о Мухаммед) Аллаг у сне прадставіў іх такой нешматлікай сілай! І калі б Ён табе паказаў іх шматлікую раць, то вы напэўна схамянуліся б і спрэчку пачалі б аб гэтым. Але ўбярог (ад гэтага вас Аллаг) – бо ведае Ён пра тое, што скрыта ў душы (чалавека).

45. І вось, калі вы сустрэліся тварам у твар, вашым вачам Ён іх прадставіў малым (атрадам), а ў іх вачах паменшыў вас падобным чынам, каб мог Аллаг прывесці да выканання прызначанае. І Аллагу належыць канчатковае вырашэнне ва ўсіх справах.

46. О вы, вернікі! Калі зыходзіцеся з (варожым) атрадам, будзьце стойкімі і безупынна прызывайце Аллага, каб вы маглі перамагчы.

47. І павінуйцеся Аллагу і Прароку Яго і не спрачайцеся паміж сабою, каб не пахіснуцца і не страціць моц. І будзьце цвёрдымі; сапраўды, Аллаг не пакідае стойкіх.

48. І не будзьце вы падобнымі да тых, якія выйшлі са сваіх дамоў з пыхай і дзеля таго, як паказацца на людзях. Яны адхіляюцца ад дарогі Аллага, але Аллаг бачыць усе іх справы.

49. І калі Шайтан паказаў справы іх добрымі ў вачах іх і сказаў: "Ніхто з людзей не пераадолее вас цяпер, і я абаронца ваш". Але калі абодва войскі наблізіліся адзін да аднаго, ён павярнуў назад і сказаў: "Сапраўды, няма ў мяне нічога агульнага з вамі;

сапраўды, бачу я тое, чаго не бачыце вы. Сапраўды, я баюся Аллага; і моцны Ён у пакаранні Сваім!"

50. Цяпер жа крывадушнікі і тыя людзі, сэрцы якіх схоплены хваробай, кажуць: "Тых людзей іх вера пазбавіла розуму!" Але хто на Аллага спадзяецца, (той ведае:) Аллаг Вялікі і Мудры.

51. І калі б мог ты ўбачыць, калі анёлы нясуць душы няверных, б'ючы іх па твары і спіне і кажуць: "Адведайце пакаранне спаленнем.

52. І гэта – вам за тое, што вашы рукі вам прыгатавалі. Бо ніколі Аллаг не зробіць слугам Сваім крыўд несправядлівых".

53. Як і для роду Фараона, і тых, каторыя да іх (грашылі), – яны не паверылі ў знаменні Аллага; тады пакараў іх Аллаг за грахі іх. Сапраўды, магутны Аллаг і суровы ў пакаранні.

54. І ніколі не зменьвае Аллаг міласці, якую дараваў Ён народу, пакуль яны ў душах сваіх не здраджваюць; Аллаг, сапраўды, усё чуе і ўсё ведае.

55. Становішча іх падобнае да становішча рода Фараона; яны адкінулі знаменні Уладыкі іх, тады знішчылі Мы за грахі іх. І патапілі Фараона род, бо ўсе яны чынілі зло.

56. Сапраўды, найгоршыя са стварэнняў у вачах Аллага тыя, якія няўдзячныя і ў ісціну Яго не вераць.

57. І гэта тыя, з якімі заключыў ты запавет; пасля чаго пры кожным выпадку парушаюць яны і не адчуваюць страху перад Аллагам.

58. І калі ты ў вайне пераможаш іх, то (праявіўшы да іх належную суровасць за здраду), ты ад сябе прагоніш тых, хто можа пайсці па іх слядах (здрады), каб памяталі яны.

59. І калі ты баішся здрады ад людзей, адкінь усе абавязацельствы свае (па дамове) перад імі, каб з імі быць на роўным грунце. Сапраўды, не ўгодны Аллагу вераломныя людзі.

60. І няхай няверныя не думаюць, што ўзялі верх, – ім не адолець (верных)!

61. І напагатове трымайце супроць іх вашу сілу і конніцу на граніцы, каб запалохаць ёю ворага Аллага і ворага вашага, а таксама і іншых, якіх не ведаеце вы, але якіх ведае Аллаг. І колькі б не ахвяравалі вы ў імя Аллага, вернецца вам поўнасцю, і не будзеце вы мець страты.

62. Але калі схіляюцца яны да міру, схіліся да міру і ты, і спадзявайся на Аллага. Ён чуе (усё) і ведае (аб усім).

63. Але калі яны задумаюць зманіць табе, то дастаткова будзе (дапамогі) Аллага. Бо гэта – Ён, хто ўмацоўвае цябе Сваёю дапамогай і дапамогай тваіх адзінаверцаў.

64. Ён іх сэрцы змацаваў (у любові і веры), і калі б ты патраціў усё тое, што на зямлі, ты б нічым сэрца іх не змацаваў. Аллаг жа іх сэрцы злучыў – бо Ён Магутны і Мудры (бязмерна)!

65. О Прарок, Аллаг табе дастатковая апора і тыя вернікі, якія ідуць за табою.

66. О Прарок, заклікай вернікаў да бойкі. Калі дваццаць з вас будуць цвёрдымі, яны перамогуць дзве сотні; і сто з вас пераможа тысячу няверных, бо яны людзі пазбаўленыя разумення.

67. Цяпер аблегчыў Аллаг бярэмя вашае, бо ведае Ён слабасць вашу. І калі знойдзецца сто справядлівых сярод вас, яны перамогуць дзве сотні; а калі знойдзецца тысяча справядлівых сярод вас, яны перамогуць дзве тысячы па волі Аллага. І Аллаг з тымі, хто справядлівы.

68. Ні аднаму прароку не падыходзіць браць у палон (няверных) да таго, пакуль не зроблена заваяванне ўсёй зямлі. Вы хочаце даброт свету гэтага, тады як Аллаг жадае для вас жыцця будучага. І Аллаг Магутны, Мудры.

69. І калі б прадпісанне Аллага перад гэтым не прыйшло да цябе, то спасцігла б вас страшная кара за тое, што вы ўзялі (выкуп за палонных).

70. Цяпер жа спажывайце тое, што ўзялі як трафеі (як добрая і законная здабыча) і бойцеся Аллага; сапраўды, Усёдаравальны і Міласэрны Аллаг.

71. О Прарок! Скажы тым палонным, што трапілі ў вашы рукі: "Калі Аллагу ведама што-небудзь добрае ў вашых сэрцах, Ён аддзячыць вам у сотню разоў за тое, што было адабрана ад вас, і даруе вам. І Аллаг Усёдаравальны, Міласэрны".

72. І калі яны задумваюць вераломства супроць цябе, яны ўжо зрабілі вераломны ўчынак супроць Аллага раней за гэта, але Ён падарыў табе ўладу над імі. І Аллаг Усявед, Мудры.

73. Сапраўды, тыя, каторыя паверылі, і перасяліліся, і прынеслі маёмасць сваю і жыццё сваё на служэнне Аллагу, і тыя, якія далі прытулак і дапамаглі ім – сябры адзін аднаму. Што ж датычыцца тых, каторыя паверылі, але не пакінулі дамоў сваіх, вы не адказныя за ахову іх, пакуль не пакінуць яны дамоў сваіх. Але калі яны просяць вашай дапамогі адносна веры, тады ваш абавязак дапамагчы ім, калі яна (дапамога) – не супроць тых народаў, з якімі ў вас саюзная дамова. І Аллаг ведае справы вашыя.

74. А няверныя – яны сябры адзін аднаму. І калі вы не станеце такімі ж (сябрамі адзін аднаму), то вялікая смута і раздор напоўніць зямлю.

75. І тыя, якія паверылі і пакінулі дамы свае, і на шляху ў імя Аллага ваявалі, і тыя, каторыя далі прытулак і дапамаглі ім – яны, сапраўды, вернікі. І па праву будзе дараванне Аллага і самы шчодры дар Яго.

76. І тыя, каторыя паверылі пасля, і пакінулі дамы свае, і разам з вамі за веру Аллага змагаліся, побач з вамі – тыя браты вашыя; што ж датычыцца кроўнай радні, то яны (адзінаверцы) бліжэй адзін да другога ў Кнізе Аллага. Сапраўды, Аллаг ведае ўсё ў поўнай меры.

*(У наступным нумары "Байрама" будзе друкавацца пераклад дзявятай суры - Аттауба)*

# ЖЫВАЯ І СТВАРАЛЬНАЯ ЛЕГЕНДА БЕЛАРУСКАГА І БЕЛАРУСКА-ТАТАРСКАГА НАРОДАЎ

## (Да 65-годдзя Якуба (Якава) Адамавіча Якубоўскага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР)

"Жыве між нас геній" – маладыя ўжо і не ведаюць, хто пісаў і аб кім пісаліся гэтыя радкі. Ды мне здаецца, гэта і не важна. Галоўнае, што іх можна прыстасаваць, далучыць да любога добрага і яркага чалавека-працаўніка. Нездарма на Беларусі просты люд ніколі не звяртаў увагі на веру, на яго нацыянальнасць, на адценне скуры, таму і нарадзілася на тутэйшых землях такое звыклае прыслоўе: "Абы чалавек быў добры". Дык той, пра каго я хачу сказаць, на самай справе вельмі добры, шчыры, працавіты, незвычайна прыгожы сам сабой, у сваіх думках, пачуццях і памкненнях. Гэта пра яго складзена непараўнальна і непрадказальна многа светлых, бліскучых і павучальных легендаў, паданняў, гутарак і апавядаў. Мабыць таму, шмат хто са знаўцаў яго жыцця, працы, грамадскай дзейнасці з добрай і хвалюючай зайздрасцю дадае: "Жывая і стваральная легенда беларускага і беларуска-татарскага народаў".

Ёсць у народнага паэта Беларусі Якуба Коласа такія словы, якія я спецыяльна перадаю па-руску: "Смысл жизни нашей – непрерывное движение". Дык вось з аўтара энцыклапедыі нашага жыцця – паэмы "Новая зямля", з яго пявучых слоў: "Мой родны кут, як ты мне мілы..." і пачынаецца першая быліца пра гэтага чалавека.

Расказваюць, што пасля смерці народнага песняра Беларусі Якуба Коласа, ён нават сядзеў і працаваў за яго рабочым сталом і, больш таго, неаднойчы тэлефанаваў розным людзям і ў розныя ўстановы па яго тэлефону, а пасля дабіўся, каб гэтыя рэдкасныя рэчы-рэліквіі папалі ў Мемарыяльны Музей Паэта...

Чуў такі аповяд, што ён, як і Якуб Колас, таксама працаваў над энцыклапедыяй беларускага жыцця, кажуць, што рабіў гэта з дня стварэння сучаснага выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі і да выхада на заслужаны адпачынак – на пенсію, каб яшчэ больш працаваць на гэтай прасторы і напрамку... А гэта я ўжо чытаў у пастанове, што ён з групай стваральнікаў шматтомнай "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі" на чале з Петрусём Броўкам атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР. Каб прадставіць велічэзны

аб'ём яго руплівай працы, пералічу толькі некаторыя энцыклапедычныя выданні, у якіх прымаў удзел гэты волат-асветнік: універсальная 12-томная "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", "Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя" у 5 тамах на беларускай і рускай мовах, "Энцыклапедыя прыроды Беларусі", "Блакітная кніга Беларусі", энцыклапедычныя даведнікі пра абласныя гарады. За ўсім гэтым добра бачны яго тытанічны труд і вялікая адказнасць перад сучаснікамі і нашчадкамі.

Сярод паданняў аб гэтым чалавеку і тое, што і як Якуб Колас, ён піша цудоўныя вершы, сярод якіх частка нават робіцца народнымі песнямі, і далей расказваецца, што адна з іх нават перакладзена на мову яго далёкіх продкаў – татараў з Крыма. Мне толькі застаецца прывесці адзін слупок з гэтага песеннага твора:

Мы з Паволжа і Крыма з Іманам прыйшлі
На гасцінныя землі Літвы і Беларусі.
Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі
І уланскую службу няслі без прымусу.
Рэфрэн:
Ляй лагу ілялагу, Мухамед расул Алагу,
Ляй лагу ілялагу, Мухамед расул Алагу.

Той, хто знаёмы з часопісам "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", можа цалкам знайсці гэтую песню у №4 за 1991 год, але прозвішча аўтара там не адшукаем. Бо гэта ўжо не легенда, а праўда, – яе стваральнік незвычайна сціплы чалавек. Выдатны пераклад "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі" зрабіў мужны і дбайны сын Крыма, узнёслы адраджэнец Беларусі, ветэран Вялікай Айчыннай вайны І. Меметаў:

Итиль озен ве Къымдан,
Бу топракъкъа биз-кельдик.
Грунвальд уруш чолинде
Атлы аскерлеримизнен,
Къатты илетиан бердик.
Багълама:
Ляи-ляи ресулюллях, Мухаммеден ресулюлях.
Ляи-ляи илъляллах, Мухаммеден ресулюлях.

Ёсць такая гутарка, што гэты чалавек зараз замяняе цэлы выдавецкі калектыў і стварае ўпершыню на Беларусі для беларускіх татараў сваю унікальную энцыклапедыю. Што гэта так, магу

сказаць шчыра, гэта чыстая, крыштальная, крынічная праўда, бо я трымаў у сваіх уласных руках частку рукапісу гэтага свядомага тварэння розуму галавы і працы яго рук, бо ўсё гэта асабіста "адстукана" ім ноччу і ў дзень на яго партатыўнай пішучай машынцы.

Вядуць людзі размову, што яго імя і першая частка прозвішча пачынаецца аднолькава, гэтаксама, як у народнага паэта Беларусі Якуба Коласа імя яго псеўданіма, што бацькам у гэтага чалавека быў сам Адам. Як перакладае гэтае слова вучоны М.В. Бірыла: Адам (яўр.) – чырвоны чалавек, зямля. Возьмем зараз імя Якуб, Якаў. Дык аказваецца, гэта Іакаў, што з яўрэйскага на наш лад гучыць, як перашкода. Дык нават уласнае імя і імя па бацьку тут гучаць шматзначна. Чырвоны чалавек з зямлі даў свайму нашчадку наказ перашкаджаць усяму дрэннаму, непрыгожаму і неадпавядаючаму нашаму жыццю, суіснаванню.

Чуў я таксама такое, што гэты волат духа і энергіі ўпершыню за ўсю 600-гадовую гісторыю беларускіх татараў стварыў пры дапамозе такіх ж рухлівых сяброў свой друкаваны орган і ўжо сёмы год з'яўляецца яго адказным рэдактарам. То ж гэта таксама праўда, выдаецца часопіс-квартальнік Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" – "Байрам. Татары на зямлі Беларусі" з 1991 года.

Гавораць, што ў яго галаве столькі ідэй, мараў, планаў, што каб іх выканаць, на нашай зямлі адразу быў райскі куток – Эдэм, але ўжо тое, што татары на зямлі Беларусі згуртаваны, таксама ёсць яго высілкі, яго стасункі, яго энергія...

Кажуць, што ў гэтага чалавека цудоўная жонка, добрыя дзеткі і ўнукі, багатая бібліятэка, шмат сяброў, паплечнікаў і прыхільнікаў яго плённай працы. Сярод тых, каго ён узбагачае і дорыць сваі веды, імпульсы свайго магнітнага прыцяжэння, знаходжуся і я. І гэта я адчуваю ўжо шмат гадоў. З больш чым 10-мільённага беларускага народа ён, жывучы ў Менску, цераз 150 кіламетраў убачыў мяне ў Баранавічах, спецыяльна прыехаў, знайшоў маю кватэру і з таго дня стаў неаддзельнай і састаўной часткай майго існавання, каб несупынна хваляваць і трывожыць маё сэрца, душу, розум, рабіць мяне лепшым і яшчэ больш шчыраваць ва ўхвалу беларускага адраджэння. Ён зрабіў для мяне спіс усіх населеных пунктаў Баранавіччыны, якіх больш за 200, зрабіў іх па алфавіту, па

сельсаветах, аддзельна выканаў спіс вёсак і паселішчаў, якія страцілі свае гістарычныя назвы і былі савецкімі ўладамі пераназваны. А потым зрабіў і агромністую карту Баранавіцкага раёна... Калі я гляджу на свае апошнія публікацыі на гістарычныя, літаратурныя або краязнаўчыя тэмы, дык гэта і яго саўдзельніцтва ў іх. Я неаднойчы гасцяваў у яго кватэры і заўсёды адчуваў прастату і шчырасць яго характару, узнёсласць яго думак і памкненняў. У мяне знаходзіцца папка з яго лістамі да мяне, каб знайшоўся фундатар і выдавец іх, дык атрымалася бы цікавая і змястоўная кніга філасофскай думкі Беларусі сучаснага часу...

Я б яшчэ доўга мог бы запісваць і гаварыць тое, што занатаваў удзячны народ аб гэтым чалавеку, але яшчэ вырашыў выкарыстаць водгукі тых людзей, якія лепш і дакладней за мяне ведаюць яго. Сярод іх Ібрагім Барысавіч Канапацкі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Белдзяржпедуніверсітэта імя Максіма Танка, віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", член муфцеята ў Рэспубліцы Беларусь, член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей. А размова мая з ім пойдзе, так-так, аб жывой і стваральнай легендзе беларускага і беларуска-татарскага народаў, слаўным сыне іх Якубе (Якаве) Адамавічу Якубоўскім.

"З Якубам Адамавічам мы пазнаёміліся параўнальна нядаўна – у 1989 годзе, а здаецца, што былі знаёмыя ўсе жыццё. Якуб Якубоўскі быў адным з арганізатараў татарскага згуртавання ў Менску, стаяў ля вытокаў нашай суполкі. Ён прымаў і прымае ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, што праводзіліся і праводзяцца Беларускім згуртаваннем татараў-мусульман "Аль-Кітаб" – вечарынах, навуковых канферэнцыях, урачыстасцях з нагоды татарскіх святаў. Асабліва раскрыўся яго талент у выданні квартальніка "Байрам" – першага часопіса за ўсю 600-гадовую гісторыю друкаванага выдання беларускіх татараў. Ён першы, хто ўзяўся за вялікую і тытанічную працу – складанне энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" і падрыхтаваў ужо больш за 300 навуковых артыкулаў. Гэта душа нашага згуртавання, жывы і яркі прыклад самаадданага служэння свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне – Беларусі. Мала хто ведае, што пад час працы ў выдавецтве "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" ён часта абвінавачваўся як "беларускі нацыяналіст". І вось гэты "нацыяналіст" атрымаў за сваю вялікаю працу ў гэтай

установе Дзяржаўную прэмію БССР. Ці гэта не парадокс таго часу? З Якубам Адамавічам у мяне ўсталяваліся цесныя сяброўскія сувязі. Гэта мой старэйшы брат і першы дарадца. З такімі людзьмі, як ён, хочацца жыць больш і лепш і працаваць натхнённа на карысць нашай Радзімы. Дай Бог яму добрага здароўя і многіе лета. Дарэчы, у гэтым годзе Якуб Адамавіч Якубоўскі будзе сустракаць сваю 65-ю вясну. Мір Вам, міласць Аллага Ўсявышняга, вельмі шаноўны Якуб Адамавіч!" – вось такую шчырую ўдзячнасць я пачуў ад Ібрагіма Барысавіча Канапацкага.

Цікава і павучальна прайсціся па біяграфічных звестках Якубоўскага. Ён нарадзіўся ў сям'і паважаных і працавітых людзей, яго бацькам быў Адам Мустафавіч, а маці – Раіса Хасенеўна, а адбылося гэта 4 красавіка 1932 года. У тым годзе сярод падзей на Беларусі быў выхад 1-га нумару газеты "Літаратура і мастацтва", адзначым для сябе, што ў ёй быў адзін з найлепшых здымкаў Якуба Адамавіча, адкрыццё Трэцяга Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра (БДТ – 3) пад кіраўніцтвам нараджэнца Баранавіччыны У.І. Галубка, адкрыццё ў Менску Белдзяржкансерваторыі, 3-і Ўсебеларускі з'езд таварыства "Прэч непісьменнасць" і аб'яўленне Беларускай ССР краінай суцэльнай пісьменнасці і інш...

Нарадзіўся Якуб Адамавіч па ўсходняму каляндару ў год малпы – самай разумнай жывёлы на планеце. Вылічыў я таксама, што гэта быў высакосны год і з'яўленне немаўляці адбылося ў панядзелак. Дзіцячыя гады Якава былі вельмі цікавымі і багатымі на розныя прыгоды. Адзначаюць таксама, што ён быў вельмі дапытлівым юнаком. Сярэднюю школу Якаў скончыў у Відзах, а потым атрымаў тры вышэйшых адукацыі – на геаграфічным факультэце ў Белдзяржуніверсітэце імя У.І. Леніна, на гістарычным факультэце і на філалагічным факультэце Менскага педінстытута імя М. Горкага, працаваў настаўнікам у розных школах Беларусі, супрацоўнічаў у навукова-даследным інстытуце, у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі.

У адным з вершаў Уладзіміра Караткевіча ёсць такія радкі:

Беларусь, прачынайся!  
Я цябе абуджаю!  
Ты павінна прачнуцца,  
Не праспі сваё шчасце ўначы,  
Я гукаю цябе,

Дарагая, святая!
Адкажы, мая родная,
Не маўчы!...

Мабыць, гэтыя гукі сваёй нескароннай душы паэт мовіў пра такіх "абуджальнікаў" нашай краіны, якім ёсць Якуб Адамавіч Якубоўскі;

мабыць, гэта і пра яго пісаў такія ўзнеслыя словы, як "Людзі, людзі – высокія зоркі!" Расул Гамзатаў;

мабыць, таму далёка наперад глядзела наша Цётка і бачыла ў сваіх светлых марах такіх людзей як Якуб Адамавіч, і апела іх у сваей "Веры беларуса":

Веру братцы: людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон;
На свет божы шырэй глянем,
Век напіша нам закон,
Не чарнілам на паперу,
Дзесь у архівы не здае, –
Ён збірае поту меру
І на ніву нашу лье,
Землю поіць, яна родзе
Сок у зярнятах нам на хлеб.

**Міхась Маліноўскі,**
правадзейны член Геаграфічнага
таварыства, г. Баранавічы.

---



**Ад рэдакцыі:** *Мы далучаемся да віншаванняў з нагоды юбілея галоўнага рэдактара і арганізатара нашага квартальніка. Зычым вельмі шаноўнаму Якубу Адамавічу моцнага здароўя, плённай і самаадданай працы на карысць нашага народа. Мір Вам і міласць Аллага Ўсявышняга. Аллаг (Хвала Яму і Вялікі Ён) заўсёды з тымі, хто творыць дабро.*

# З кнігі "Энцыклапедыя для беларускіх татараў"

**Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч (літаратурныя псеўданімы Анатоль Вольны, Акша, В.Ажгірэй, Алёша; 19.11 (2.12) 1902, ст. Пухавічы, цяпер у Пухавіцкім раёне Менскай вобл. – 29.10.1937), паэт, празаік, кінадраматург.** Нарадзіўся ў сям'і служачага. У 1911 г. паступіў у Ігуменскую гімназію. У 1920 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Змагаўся з іншаземнымі інтэрвентамі. Верагодна ў гэты час пачаў пісаць. У 1921 г. дэмабілізаваўся. Працаваў у ЦК ЛКСМБ, газеце для сельскай моладзі "Малады араты", вучыўся ў БДУ. У 1922 годзе пачаў друкавацца. Прымаў актыўны ўдзел у літаратурна-мастацкім руху Беларусі. З'яўляўся адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання "Маладняк". Вызначаўся разнастайнасцю літаратурных інтарэсаў. Займаўся паэзіяй, прозай, драматургіяй. У 1924 годзе выдаў сумесна з А. Александровічам паэтычны зборнік "Камсамольская нота", у 1926 г. – "Чарнакудрая радасць", у 1927 г. – "Табе". Быў адным з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў беларускай прозе. У гэтым жанры напісаў аповесць "Два" (1925 г.) і раман "Ваўчаняты" (1925 г.) – у сааўтарстве з А.Александровічам і А.Дударом. У аповесці "Антон Савіцкі" (1927 г.) стварыў вобраз народнага заступніка.

Пісаў гумарэскі, фельетоны, драматызаваныя агітжарты ("Калі дзяк гаварыць праўду", "У агранома", "Міколка", 1924 г.). Гумарыстычныя творы выдаў пад псеўданімам Алёша: зборнік "Суседзі" (1932 г.). Займаўся драматургіяй. Паводле сцэнарыяў А.Ажгірэвіча пастаўлены шэраг кінафільмаў: "Хвоі гамоняць" (з К.Дзяржавіным, 1929 г.), "Гатэль "Савой" (1930 г.), "У агні народжаныя" (1930 г.), "Сонечны паход" (1931 г.), "Новая радзіма" (1935 г.), "Шасцідзесятая паралель" (1935 г.).

У 1934 г. Ажгірэй А.І. быў прыняты ў Саюз Пісьменнікаў Беларусі. У 1935 годзе ўдастоены звання заслужанага дзеяча мастацтва БССР.

4.11.1936 г. арыштаваны. У 1937 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны пасмяротна 3.12.1957 г.

Ёсць меркаванне аб тым, што продкі Ажгірэвічаў былі татарскага роду.

*Мікола Багадзяж.*

***

# НЕВЯДОМЫ ЛЁС ВАРШАЎСКАГА ІМАМА

## Дакументы і матэрыялы*

*лл. 16-23.*

Протокол допроса обвиняемого Вороновича Али Самуиловича от 26 января 1941 г.

Допрос начат в 1 ч. 10 минут.

Воронович А. С. 1902 года рождения. Уроженец м. Ляховичи Барановичской области БССР. Из служащих. По национальности татарин. Гражданин СССР с высшим образованием. Беспартийный.

До ареста проживал в городе Клецке Барановичской области. Работал учителем белорусской НСШ.

**Вопрос:** Вы уроженец местечка Ляховичи. Какой период времени вы там, т. е. в Ляховичах, проживали?

**Ответ:** В Ляховичах я по существу не проживал за исключением двух лет в детстве.

С детства и до 1915 года я вместе со своими родителями проживал в местечке Родивилишки бывшей Ковенской губернии Шавельского уезда. Там я окончил три класса гимназии.

В 1915 году я вместе со своей семьёй – отцом и матерью выехал на жительство в Ляховичи, где прожили до августа месяца этого же 1915 года. В августе переехали в город Вязьма. Отец в этот период находился в армии. Мы с матерью в Вязьме жили до 1917 года. Там я уже учился в пятом классе гимназии.

В августе месяце 1917 года мы с матерью переехали в г. Симферополь по случаю, что там в Симферополе в это время проживали наши знакомые татары – Мурзич Захарий и Мурзич Мустафа.

В Симферополе мы прожили до 1922 года. Потом переехали обратно же в местечко Ляховичи как беженцы. В Симферополе я окончил гимназию.

---

* Працяг. Пачатак глядзі "Байрам" №№ 3, 4 за 1996 г.

Odpis

№ 3

Выпись изъ метрическихъ книгъ Минской губерніи Слуцкаго уѣзда Ляховичской соборной мечети о родившихся, гдѣ подъ № 3-мъ записанъ актъ слѣдующаго содержанія. Тысяча девятьсотъ второго года, апрѣля перваго дня, изъ законнобрачныхъ родителей дворянъ магометанъ Самуила и Амини изъ Шинкевичей Вороновичей родился сынъ, которому по обряду магометанской вѣры дано имя Алей. Что сія метрическая выпись съ подлинною записью въ книгѣ есть вѣрна, въ томъ подписью и приложеніемъ мечетной печати удостовѣряю. Ноября 24 дня 1904 года. Хатибъ Ляховичской соборной мечети 1-й Д. Мурзичъ. Печать округлая „печать Ляховицкой соборной джамии“.

№ 3. Tłumaczenie.

Wyciąg z ksiąg metrycznych o u[...]nych guberni mińskiej, powiatu Słuckiego Lachowickiego meczetu katedralnego gdzie pod № 3 zapisano akt treści następującej: tysiąc dziewięćset drugiego roku dnia 1 kwietnia z prawnie poślubionych rodziców ze szlachty muzułmanów Samuela i Aminii z Szynkiewiczów Woronowiczów urodził się syn, któremu według obrządku wiary muzułmańskiej dano imię Ali. Zgodność niniejszego wyciągu metrycznego z zapisem w księdze poświadczam podpisem i pieczęcią meczetową. Dnia 24 listopada 1904 roku. Chatyb Lachowickiego meczetu katedralnego. 1-й D. Murzicz. Pieczęć okrągła „pieczęć Lachowickiej katedralnej djamji“.

MUFTI RZECZPOSPOLITA

Za zgodność z oryginałem
Mufti Dr J. Szynkiewicz
Sekretarz Muftjatu
Tuhan-Baranowski

5 października 1933 r.
m. Wilno

АТТЕСТАТЪ ЗРѢЛОСТИ.

Данъ сей [illegible] Вороновичу мусульманского вѣроисповѣданія, родившемуся въ м. Ляховичахъ, Слуцкого уѣзда, Минской губерніи, 1908 года апрѣля 1 числа въ томъ, что онъ, вступивъ въ СИМФЕРОПОЛЬСКУЮ ГИМНАЗІЮ 28 августа 1917 года, при отличномъ поведеніи, обучался по 16 мая 1920 года и окончилъ полный восьмиклассный курсъ, при чемъ обнаружилъ нижеслѣдующія познанія:

| | | |
|---|---|---|
| Въ Законѣ Божіемъ | — | (—) |
| „ Русскомъ языкѣ съ церковно-славянскимъ и словесности | удовлетворительныя | (3) |
| „ Философской пропедевтикѣ | хорошія | (4) |
| „ Латинскомъ языкѣ | хорошія | (4) |
| „ Законовѣдѣніи | хорошія | (4) |
| „ Математикѣ | удовлетворительныя | (3) |
| „ Математической географіи | удовлетворительныя | (3) |
| „ Физикѣ | удовлетворительныя | (3) |
| „ Исторіи | удовлетворительныя | (3) |
| „ Географіи | хорошія | (4) |
| „ Отечествовѣдѣніи | — | (—) |
| „ Французскомъ языкѣ | удовлетворительныя | (3) |
| „ Нѣмецкомъ языкѣ | удовлетворительныя | (3) |
| „ Рисованіи | — | (—) |
| „ Черченіи | — | (—) |

На основаніи чего и выданъ ему сей аттестатъ зрѣлости, предоставляющій ему всѣ права, обозначенныя въ §§ 130—132 ВЫСОЧАЙШЕ утвержденнаго 30-го іюля 1871 года устава гимназій и прогимназій.

[illegible]

По отношенію къ отбыванію воинской повинности пользуется правами окончившихъ курсъ въ учебныхъ заведеніяхъ перваго разряда.

Г. Симферополь, мая 18 дня 1920 года.

Директоръ гимназіи [illegible]

Инспекторъ [illegible]

Законоучитель [illegible]

Члены Педагогическаго Совѣта: [illegible]

Секретарь Педагогическаго Совѣта [illegible]

Примѣчаніе. Употребляемыя для отмѣтокъ цифры имѣютъ слѣдующія значенія: 5 означаетъ отличные, 4—хорошіе, 3—удовлетворительные, 2—не совсѣмъ удовлетворительные и 1—вовсе неудовлетворительные познанія и успѣхи.

По смерти отца, в 1922 году я вместе со своей матерью и младшим братом Вороновичем Мустафой Самуиловичем, последний 1905 года рождения, проживал до германо-польской войны в г. Вильно, улица Тартони д. 19, занимался выделкой кож, выехали в город Вильно.

В г. Вильно я проживал до 1926 года. Являлся вольным слушателем Виленского университета.

В 1926 году поступил во Львовский университет "Яна Казимира" на отделение восточных языков, который окончил в 1932 году. За этот период в 1928 году отбыл военную службу, получил чин подхорунжего капрала артилерии.

С 1932 до февраля месяца 1933 года проживал у своей матери в м. Слониме, которая к этому периоду из Вильно переехала на жительство в Слоним.



SZKOŁA PODCHORĄŻYCH
REZERWY ARTYLERJI

L. KSIĘGI POSTĘPÓW 81 /29/8

# ŚWIADECTWO.

tytularny kapral
Koronowicz Ali

z 19 pułku artylerji polowej

UKOŃCZYŁ W CZASIE OD 20 lipca 1928 ROKU.
DO 21 KWIETNIA 1929 ROKU.

SZKOŁĘ PODCHORĄŻYCH REZERWY ARTYLERJI

Z POSTĘPEM dobrym ORAZ LOKATĄ 59 na 77 bat. 8
I UZYSKAŁ W MYŚL ART. 16 USTAWY „O PODSTAWOWYCH OBOWIĄZKACH I PRAWACH SZEREGOWYCH W. P." Z DNIA 18 LIPCA 1924 R., TYTUŁ

PODCHORĄŻEGO.

WŁODZIMIERZ, DNIA 21 KWIETNIA 1929 R.




KOMENDANT SZKOŁY PODCHORĄŻYCH
REZERWY ARTYLERJI

Drukarnia WAS SERA Włodzimierz, Sienkiewicza M 8, Tel. 1.

UNIWERSYTET Jana Kazimierza we Lwowie
WYDZIAŁ Humanistyczny
L. 733

DYPLOM MAGISTRA FILOZOFJI

Pan Ali Woronowicz
urodzony dnia 1 kwietnia 1902 roku w Sachowszczyźnie pow. Oszmiańskiego
odbył przepisane studja w Uniwersytecie Jana Kazimierza we Lwowie na Wydziale Humanistycznym
w zakresie nauk orjentalistycznych
i zdał następujące egzaminy:

z gramatyki opisowej języka arabskiego jako głównego z wynikiem dostatecznym
z gramatyki opisowej języka perskiego z wynikiem dobrym
z gramatyki opisowej języka tureckiego z wynikiem dobrym
z ogólnego zarysu geografji, etnografji i historji Wschodu muzułmańskiego z wynikiem dobrym
z ogólnej historji literatury arabskiej z wynikiem dobrym
z ogólnej historji literatury tureckiej i perskiej z wynikiem dobrym
z głównych zasad nauk filozoficznych z wynikiem bardzo dobrym
z pogłębionej znajomości dziejów kulturalnych krajów muzułmańskich z wynikiem bardzo dobrym
z zarysu geografji i etnografji historycznej krajów muzułmańskich z wynikiem dobrym

oraz przedstawił z wynikiem dostatecznym pracę magisterską na temat

Wobec tego Rada Wydziału Humanistycznego Uniwersytetu Jana Kazimierza we Lwowie na wniosek Komisji Egzaminacyjnej nadaje Panu Alemu Woronowiczowi stopień

MAGISTRA FILOZOFJI,
JAKO DOWÓD ZAKOŃCZENIA STUDJÓW WYŻSZYCH W ZAKRESIE
nauk orjentalistycznych

We Lwowie, dnia 26 października 1931 r.



REKTOR DZIEKAN

PRZEWODNICZĄCY KOMISJI EGZAMINACYJNEJ
Dr. Podlacha

В феврале месяце получил должность в г. Вильно в мусульманском Муфтияте где каталогировал книги и рукописи по мусульманской религии.

В июле месяце 1933 года Министерством вызнань религийных и освещенья публичного – это значит Министерством вероисповедания и народного просвещения б. Польши я был направлен в египетский город Каир в Мусульманский религийный университет на отделение иностранцев по изучению теологии и истории Ислама. На период учёбы мне была установлена Министерством б. Польши стипендия. Там я проучился до октября 1936 года. Не окончил. Потому, что полностью весь курс мне кончать не нужно было, мне нужно было только изучить предмет теологии и историю Ислама. По изучении данных предметов я возвратился в б. Польшу в г. Варшаву.

Найвышэйшая калегія Мусульманскага рэлігійнага Саюза Рэчы Паспалітай.
Здымак зроблены напярэдадні I Усепольскага кангрэса мусульман. 31 студзеня 1938г.



*Сядзяць (злева направа):* імам Ал-р Крыніцкі, імам Алі Варановіч, муфцій д-р Якуб Шынкевіч, Альгерд Найман Мірза Крычынскі, Якуб Рамановіч.
*Стаяць:* імам Ях'я Міскевіч, імам Лют Мухля, Канстанцін Мурза-Мурзіч, Стэфан Мустафа Рамановіч.

В январе месяце 1937 года в г. Варшаве я был избран муллой варшавского мусульманского религиозного объединения, где работал до 5 сентября 1939 года.

9 сентября этого же 1939 года приехал вместе с женой в г. Клецк до родителей жены, где устроился на работу учителем НСШ.

**Вопрос:** Назовите своих родственников и укажите где они проживают и работают?

**Ответ:** Кроме брата Вороновича Мустафы, в отношении которого я уже показал, имею сестру – Полторжицкая Елена Самуиловна 1901 года рождения, проживает вместе со своим мужем Полторжицким Константином, не знаю его отчества, в д. Ольшимово Волковысского района, занимается сельским хозяйством.

Дядя по матери – Шинкевич Якуб Сулейманович в возрасте лет 55 или 56, в б. Польше был муфтием мусульманской религии. До германо-польской войны проживал в городе Вильно по улице Сераковского, дом 21. Не знаю, где проживает в настоящее время. Последний раз я с ним встречался в июне месяце 1939 года у него же в г. Вильно.

Брат Шинкевича Якуба – Шинкевич Мустафа Сулейманович в возрасте лет около 60, проживает в городе Симферополь, Феодосийское шоссе, дома номер не помню. Помню, что малый номер по счёту 2 или 4. Не знаю чем он занимается. Виделся с ним я последний раз в 1921 или 1922 году, точно не помню. В конце 1939 или начале 1940 года получил одно письмо из Симферополя от его жены.

**Вопрос:** Неужели тётя вам не сообщила в своём письме, чем занимается её муж Шинкевич Мустафа?

**Ответ:** Она писала, что он находится в ссылке. Должен года через полтора вернуться.

**Вопрос:** Почему же вы показали, что не знаете чем занимается?

**Ответ:** Я считаю, что это я просто выразился не правильно.

**Вопрос:** Чем занимался ваш дядя Шинкевич Мустафа?

**Ответ:** До революции 1917 года служил в царской армии в чине штабс-капитана. Не знаю чем он занимался при Советской власти.

**Вопрос:** Продолжайте называть своих родственников.

**Ответ:** Кроме названных имею две двоюродные сестры. Одна из них – Воронович Зоня Мустафовна в возрасте лет около 50, не замужем, проживает в Ляховичах.

Вторая – Мурзич Галя, проживает вместе со своим мужем – Мурзич Мустафой, не знаю его отчества, последний в возрасте лет около 55, в Ляховичах занимается кустарничеством по выделке кожи.

Второй муж моей матери – Смольский Камбер, не знаю его отчества, в возрасте около 67 лет, проживает вместе с моей матерью в г. Слониме – мулла мусульманского религиозного объединения.

Больше из родственников никого не знаю.

Допрос окончен в 3 ч. 40 минут.

***

*лл. 24-29.*

Протокол допроса обвиняемого Вороновича Али Самуиловича от 27 января 1941 года.

Допрос начат в 14 ч. 10 минут.

**Вопрос:** Назовите своих знакомых?

**Ответ:** В Варшаве, где я проживал до 1939 года, я был знаком со следующими лицами:

Эксаков Гафур, не знаю его отчества, и его жена Эксакова Мамбет. По национальности казанские татары. Проживают в городе Варшава – Германия. При б. Польше Эксаков занимался торговлей. Знакомство между нами имело чисто семейный характер. Несколько раз он приглашал меня на обед.

Брат Эксакова Гафура – Эксаков, не знаю его имени, проживает в г. Варшаве, улица Фурманская, дом 16. До 1939 года Эксаков являлся моим заместителем, т.е. заместителем муллы. Не знаю чем он сейчас занимается. Если до настоящего времени не происходили там выборы муллы, то, очевидно, он так и остался муэзином, т.е. заместителем муллы.

Фазлель Асфандияр проживает в г. Варшава – Германия, улица Добра 20. До 1937 года работал муллой. Смещён был по старости лет. Не знаю чем он сейчас занимается.

Хурамович Абдулхамит, в возрасте лет свыше 50, проживает в г. Варшава. До моего выезда из Варшавы работал референтом по текущим счетам в сберегательной кассе "ПКО – Польская касса ощадная" и являлся членом комитета по построению мечети в Варшаве.

Гурко Ольгерд, в возрасте свыше 50 лет, профессор истории Востока. До моего выезда из Варшавы работал в Восточном институте. Являлся членом комитета по построению мечети в Варшаве. К нему мне приходилось обращаться чаше всех по вопросу, чтобы он разрешил зал института для религиозного служения и встреч.

Заенчковский Ананий, в возрасте лет около 38, профессор, языковед тюркских племён. До моего выезда из Варшавы работал в институте и университете. Под его руководством я писал докторскую




*Алі Варановіч, 1941 г.*

диссертацию на тему "Религиозная поэзия польских мусульман". Эта работа мной закончена не была.

Полторжицкий Александр, в возрасте лет около 60, проживал в г. Варшава. Работал в кассе ПКО, являлся секретарём комитета по устройству мечети в Варшаве.

Ахмет Саях, иранский посол в Варшаве. У него в посольстве я исполнил три религиозных обряда – два венца, т.е. две пары женил и одну из них потом развёл. С ним самим при этом мне приходилось долго разговаривать. Он интересовался вопросами жизни мусульман в Польше.

Кричинский Ольгерд – татарин, проживает, кажется, в Вильно. В Варшаве работал прокурором наивысшего суда и являлся председателем религиозного мусульманского управления в городе Варшава. С ним мне приходилось бывать на собраниях мусульманского комитета в Вильно, а также я у него был на обеде. В начале 1939 года он из Варшавы переведён в Вильно в должность вице-председателя аппеляционного суда.

Бозаревский Стефан, татарин, в возрасте лет около 68. Проживает в г. Вильно, Сераковского, дом 21. Профессор. Последнее время проживал на пенсии. Ещё будучи студентом во Львове, он мне из Вильно присылал два раза денег. По прибытию из Варшавы в 1939 году я с ним не встречался.

Романович Яков, татарин, в возрасте лет около 65. Полковник бывшей царской русской армии. Проживает в г. Вильно. Домашнего адреса я не знаю. Являлся заместителем муфтия и членом коллегии.

Смайкович Ибрагим, татарин, в возрасте лет около 65. Проживает в г. Вильно, улица Манюшки. Мулла мусульманского объединения города Вильно.

Мухо Ибрагим, татарин, дальний мой родственник. Проживает в г. Вильно, но домашнего адреса не знаю. Телеграфист на товарной станции. Но это было в 1936 году, сейчас где работает не знаю.

Барановский Стефан, татарин, в возрасте лет около 70. Проживает в г. Вильно. Являлся секретарём муфтията.

Шинкевич Эдиге Мустафович, в возрасте лет около 27. Проживал раньше в СССР. Оттуда бежал в Польшу в 1936 году. Проживал в г. Вильно. Домашнего адреса я не знаю. Перед моим выездом из Варшавы он был у меня в квартире. Потом он выехал в Турцию. Шинкевич Эдиге является моим двоюродным братом.

Допрос окончен в 17 часов.

*(Працяг будзе)*



*Ева Варановіч*

*Гожув Велькопольски, 20.05.1996г.*

*Многоуважаемый господин Ибрагим!*

*Прошу мне простить это непосредственное обращение, ибо я не знаю имени Вашего Отца, а также то, что пишу Вам не на русском языке. Разговариваю и читаю по-русски, хуже с написанием. Надеюсь, что как-то справитесь с моим письмом и прошу прощения за созданные мною трудности.*

*Моё путешествие в Минск позволило мне найти некоторые документы моего мужа Али Исмаиловича Вороновича, изъятые во время ареста до 20 января 1941г. в Клецке.*

*Пребывание моё в Минске продолжилось только 2 дня (25–26.04.1996г.), а целью был важный вопрос – нахождение документальных доказательств невиновности и безосновательности обвинения, явившегося в конце концов причиной его смерти.*

*Очень много дел возникло у меня во время этих двух дней, хотя бы, состоявшаяся 26 апреля 1996г. моя встреча с Вами и вашими приятелями, принявшими меня очень сердечно.*

*Вернувшись домой просмотрела документы, которые получила в КГБ. Часть из них – документы моего мужа, часть – ксерокопии его показаний. Есть в той пухлой папке такие документы, которые не получила, но которые мне очень нужны. Здесь я обращаюсь к Вам с огромной просьбой о помощи, ибо в своё время Хасень Мустафович Александрович говорил мне, что Вы как историк и одновременно вице-президент белорусского объединения "Аль-Китаб" также интересуетесь судьбой моего мужа.*

*Во время беглого просмотра материалов в КГБ увидела список вещей, изъятых во время ареста и обыска 20 января 1941 г., интересуют меня рукописные материалы, подготовленные моим мужем к печати ещё в Варшаве, но привезённые с другими документами в Клецк. Конкретно – записала для себя дату письма в Центральный архив КГБ в Москве от 6 февраля 1941г. по поводу каких-то рукописей на польском и арабском языке. В Москве возможно мог быть перевод с арабского на русский.*

*В Минске мне сказали, что всё пропало, вероятно, сожжено, уничтожено и тому подобное. Так как эта запись сделана в феврале 1941г., то думаю, что если не в архиве в Минске, то, может быть, рукописи найдутся в Центральном архиве КГБ в Москве.*

*Знала, что муж приготовил к печати на целый год, на 52 недели, проповеди на польском и арабском языках, чтобы все имамы мусульманских приходов в Польше могли бы их использовать. Это было согласовано с муфтием в Вильно. Знаю, что обрабатывал для печати "Жизнь пророка Мухаммеда", но не уверена, были именно эти или другие рукописи.*

*Если бы Вы имели возможность предпринять старание в отыскании и получении этих рукописей – была бы очень благодарна.*

*Во время разговора с заместителем руководителя отдела КГБ в Минске Л.В.Пименовым спросила могу ли обращаться по моему вопросу, он дал на это согласие. Одновременно он дал мне*

*следующий адрес архива: Начальник архива – Александр Иванович Верес, тел. 29-91-30, по-видимому это в Минске.*

*Если то, о чём я прошу, невыполнимо по причинам, известным также и мне, то прошу только о кратком письме, конечно по-русски.*

*При оказии прошу передать от меня привет Якубу Якубовскому – помню о его просьбе и господину Исмаилу Мустафовичу Александровичу. Прошу, если есть фотографии нашей встречи, было бы мне очень приятно их получить.*

*Согласно с просьбой посылаю мою фотографию двухлетней давности.*

*Передаю сердечное поздравление для Вас.*

*Ева Воронович*



ПРАКУРАТУРА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПРОКУРАТУРА
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

25.04.96 № 13р/18019-с

г. Мінск

С П Р А В К А

ВОРОНОВИЧ Али Самуилович, 1902 г.рождения, уроженец м.Ляховичи Барановичской области,татарин, с высшим образованием, женат,житель г.п.Клецк Минской области,учитель неполной средней школы

20 января 1941 года был арестован по обвинению в шпионаже и контрреволюционной деятельности (ст.ст.68 и 74 УК БССР), содержался в Барановичской тюрьме.

При оккупации немецкими войсками Барановичской области Воронович А.С. был освобожден немцами из тюрьмы и в пути следования к своей семье в Клецкий район умер. В материалах дела нет сведений о месте и времени его смерти.

Следственным отделом КГБ БССР 7 сентября 1964 года уголовное дело в отношении Вороновича А.С. производством прекращено за отсутствием в его действиях состава преступления, т.е. он признан невиновным.

Справка выдана гр-ке Воронович Еве Хасеньевне, прож. 6640, Республика Польша, г.Гожов-ВЛКП, ул.Коперника, 7, кв.2.

Первый заместитель Гене[illegible]
прокурора Республики Бе[illegible]



В.К.Кондратьев

# Відзскія татары

Рэдакцыя “Байрама” папрасіла мяне скласці спіс татар, якія жылі ў Відзах да Вялікай Айчыннай вайны і якія зберагліся ў маей памяці. Многіх памяткую, але не ўсіх. Некаторых ужо не назаву па фаміліі, а толькі па, як бы тут далікатна сказаць - прыдомку. Напрыклад, калі чалавек паходзіў з вёскі Падзісена, то дабаўлялі да фаміліі Падзісеннік, а калі нехта з сям’і займаў пачесную пасаду годжыя - настаўніка, то яго нашчадкаў называлі Годжы. А пра некаторыя прыдомкі і растлумачыць не магу. Была такая пажылая сям’я, якую я ледзь памятаю, а называлі іх Міравыя. Нічога аб іх больш не даведаліся. Можа нехта ў іх радні быў абраны ў якасці міравога судзі (былі такія да рэвалюцыі), вось фамілія забылася, а прыдомак застаўся.

Думаю я, што недзе ў архівах муфтэята ў Вільні зберагліся спісы татар па джаміятах (прыходах), бо кожны год мусульманская сям’я плаціла невялікі падатак на карысць мячэці, дык можа звесткі пра татарскія сям’і ёсць.

Яшчэ трэба мне зрабіць паметку, што імёны ў маім спісе пададзены не зусім дакладна. Напрыклад, называлі хлопчыка Броня, Браніслаў, а азанены ён як Ібрагім. Нешта падобнае адбывалася з імем Мустафа. Яго мусульманскае імя перакладалі то як Стэфан, то Сцяпан. Але галоўнае было, што як азанілі дзіця, то казалі яму, каб памятаваў сваё імя да Суднага Дня. ...Многія, многія з тых людзей, якіх я тут (імёны) напісала, ужо памёрлі, няхай ім будзе спакой на тым свеце. Большасць ураджэнцаў відзскіх татар пахаваны на відзскім мізары, але ёсць пахаваныя і ў іншых месцах.

Спрабавала я пазначыць, з якога году нараджэння мае сучаснікі татары, але ведаю не ўсіх. Хто будзе наведваць мізар відзскіх татар, дык прачытае на помніках гады жыцця нашых супляменнікаў.

Відзскія татары да Вялікай Айчыннай вайны рассяляліся там, дзе спрадвеку мелі свае агароды, бо большасць іх з агародаў і жылі. На Садовым завулку жылі толькі татары, на Мячэтным былі амаль усе хаты татарскія, а вось на Татарскай вуліцы стаялі дамы і

старавераў і каталікаў. На Старой вуліцы (пасля Вялікай Айчыннай вайны гэту вуліцу назвалі вуліцай Леніна) татар жыло адносна нямнога, а пераважалі габрэі, каталікі.

*Садовы завулак.*

1. Палтаржыцкі Якаў і Палтаржыцкая Азыма (родам з сям'і Якубоўскіх з Менска) і іх дзеці - Сцяпан, Браніслаў, Маня.

2. Александровіч (з Якубоўскіх) Аміня Хасенеўна і Александровіч Браніслаў. Іх дочкі - Аміня і Саіда.

3. Якубоўскі Азюль і Якубоўская Мяр'ема, іх дачка Якубоўская (затым Гімбіцкая) Зінаіда Азюльеўна.

4. Якубоўская Фэля Хасенеўна, Якубоўская Тамара Браніславаўна (жыве ў Даўгаўпілсе).

Якубоўскі Мустаф Хасеневіч і Якубоўская Разалія.

Якубоўская Амэля Мустафаўна.

*Мячэтны завулак.*

1. Палтаржыцкі Амурат і Палтаржыцкая Мяр'ема, дзеці Браніслаў, Якуб, Аляксандр і ўнучка Аміня, праўнучка Палтаржыцкая Софія Мустафаўна (жыве ў Вільні).

3. Баядэрыха; дзеці Маня, Хасень, Роза.

4. Якубоўская Разалія Хасенеўна.

5. Лебедзь Якуб і Лебедзь Аміня. Дзеці Якуб, Роза (выйшла замуж за Якубоўскага), Сулейман, Фэля (выйшла замуж за Гімбіцкага).

6. Мухля Якуб і яго жонка Айша. Дзеці Соня, Мяр'ема, Аляксандр, Джаміля.

7. Якубоўскі Якаў і жонка (Елена?). Дзеці Браніслаў, Яўгенія, Аляксандр.

8. Бяганская Аміня. Дзеці Мяр'ема, Мустаф, Адам, Альміра.

9. Ясінская (з Асановічаў) Айша. Дзеці Браніслаў, Роза.

10. Халікаў Сулейман.

11. Мухля Сяліма (сястра муллы Мухлі).

*Татарская вуліца.*

1. Асановічы (Таўрагінскія).

Асановіч Аляксандр і жонка Мяр'ема. Дзеці Айша, Эльміра, Халіма, Азыма, Мустаф, Сулейман. Дзеці Мустафы і Еўгеніі - Эмір, Тамара, Ліда.

2. Якубоўскі Ібрагім і Якубоўская Роза. Дзеці Азюль, Мустаф, Ібрагим. Жонка Мустафа Мяр'ема і іх дзеці - Ібрагім, Аляксандр, Зінаіда, Роза, Якаў (нарадзіўся ў 1946 г.).

3. Ясінскі Аляксандр Бікіравіч. Дзеці Аляксандр Аляксандравіч і Елена Аляксандраўна.

4. Якубоўская Елена Аляксандраўна.

Палтаржыцкая Азыма Аляксандраўна.

Палтаржыцкая Елена Мустафаўна.

Якубоўская Елена Аляксандраўна.

Якубоўскі Аляксандр Аляксандравіч.

Якубоўская Софія Аляксандраўна.

Якубоўскі Міхаіл Аляксандравіч.

5. Гімбіцкая Зуля. Дзеці Якава і Зулі: Азыма, Танзіля, Елена, Мустаф, Смоля.

Рызвановіч Аляксандр, Рызвановіч Ева. Дзеці Рызвановіча - Софія, Елена, Аніфа.

6. Александровіч Роза, яе дзеці Мустаф, Аляксандр, Якуб, Раня. Унукі - Александровіч Аляксандр Якаўлевіч, Александровіч Шаміль Якаўлевіч, Якубоўскі Хасень Аляксандравіч - сын Рані.

7. Якубоўская Мяр'ема і яе дзеці Айша, Азыма, Софія, зяць Маўлетаў Махмут Махмутавіч, унукі Маўлетаў Аляксандр Махмутавіч і Маўлетава Таскіра Махмутаўна (жыве ў Казані).

8. Якубоўскі Мустаф (Сцяпан) і яго жонка Роза, у іх былі дзеці - Адам, Хадыча, Мяр'ема. Ад другога шлюбу Мустафы з Асэяй былі дзеці Якаў, Зіна, Роза.

9. Александровіч Браніслаў, яго сёстры - Соня, Гэля, Роза, Зіна, Маня, брат Аляксандр.

10. Палтаржыцкая Аніфа, сын Палтаржыцкі Мустаф.

11. Якубоўская Роза, яе сын Аляксандр Якубоўскі.

12. Гімбіцкая Асэя і Гімбіцкі Хасень. Дзеці Мустаф Хасеневіч і Хасень Хасеневіч.

13. Мількамановічы Мустаф і яго жонка. У іх дзеці - Таскіра, Елена і Мяр'ема.

14. Якубоўская Соф'я, яе дзеці Энвер Браніслававіч і Елена Браніславаўна.

15. Якубоўская Азыма. Дзеці Марыя, Хасень, Соня, Аляксандр, Роза.

*Старая вуліца (цяпер Леніна).*

1. Радкевіч Халіль і яго жонка Айша. Дзеці Хасень, Мустаф, Соф'я, Якуб, Браніслаў, Азюль (загінуў на фронце), Роза, Адам (загінуў на фронце), Аляксандр.

2. Якубоўская Елена Сільвестраўна, сёстры Таня, Соня, Эльміра, Айша, Жэня, Маня, браты Браніслаў, Саша.

3. Радкевіч Аляксандр (мулла) і яго жонка Зуля. Пляменнік Сігадзінская Айша Браніславаўна, унукі Якубоўскі Аляксандр Хасеневіч і ўнучка Якубоўская Вера Хасенеўна.

4. Якубоўскі Хасень і яго жонка Асэя, дочкі Азыма і Раня. Сыны Рані і Адама Мустафавіча - Хасень, Якуб, Адам, Браніслаў (нарадзіўся ў 1943 г.).

У наступным лісце, калі гэта будзе цікава чытачам "Байрама", дашлю спіс сваей радні і сваякоў, накрэслю схему. Можа і для іншых будзе цікава распісаць свой радавод. Калі чалавек пастарэе, дык толькі адзінае, што яму ўспамінаецца, гэта твае адносіны з тымі, хто жыў з табою побач, хто цікавіўся табой, хто цябе любіў.

*Азыма Радкевіч.*

***

# ВАЙНА І МУСУЛЬМАНСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ



Усе адзначаюць цяпер факт рэлігійнага ажыўленьня ў былых камуністычных краінах. І ўсё ж, ня гледзячы на адзіную тэндэнцыю, працэс гэты ў розных краінах і рэгіёнах ідзе па-рознаму: калі ў сёньняшняй Расеі можна заўважыць толькі ажыўленьне праваслаўя, Паўночны Каўказ (Чачэнія, Інгушэція і Дагестан) перажывае сапраўднае мусульманскае адраджэньне. Асабліва характэрны прыклад Чачэніі, дзе пасля пачатку ў сьнежні 1994 году расейска-чачэнскай вайны рэгенэрацыя ісламу адбывалася надзвычай бурна.

У XX ст. лёс двойчы судзіў чачэнцам трагічныя выпрабаваньні: сьпярша ў 1944-57 гг. сталінскае высяленьне цэлага народу ў казахстанскія стэпы, часткова супастаўнае з бабілёнскім паланеньнем старажытных габрэяў, пасьля расейска-чачэнская вайна (сьнежань 1994 - жнівень 1996), якая ператварыла блізка паловы жыхароў маленькай Чачэніі ў перамешчаных асобаў і ўцекачоў і часам сьведчыла пра імкненьне расейскага кіраўніцтва "канчаткова разьвязаць чачэнскую праблему". Вядома, што цяжкія выпрабаваньні разам з матэрыяльнымі нягодамі спрыяюць паглыбленьню духоўнага досьведу народу і яго містычнага сьветаўспрыманьня. Чачэнскія горцы, адарваўшыся ад роднага каўкаскага асяродзьдзя і апыніўшыся ў гушчы Савецкага Союзу ў Казахстане, актыўна ўзаемадзеялі зь мясцовым жыхарствам, казахамі і расейцамі, а таксама з высланымі туды прадстаўнікамі іншых народаў, братамі ў няшчасьці. Усё гэта моцна спрыяла захаваньню і ўзбагачэньню рэлігійнага і духоўнага досьведу чачэнцаў. Многія чачэнскія алімы (настаўнікі) не перажылі

пары выгнаньня, але яны перадалі свае веды і традыцыі маладзейшым пакаленьням.

Цікава, што ступень духоўнай свабоды горцаў-выгнаньнікаў была вышэйшаю, чымся ў іншых паўночнакаўкаскіх горцаў, што не падпалі пад высяленьне, але затое апынуліся пад нядрэмным таталітарным кантролем. Дачыненьні з праваслаўным і іншым хрысьціянскім насельніцтвам выклікалі сярод чачэнцаў значную увагу да Ісуса Хрыста (хоць і ўспрыманага згодна з мусульманскаю традыцыяй у якасьці аднаго з пракрокаў) і веру ў Яго другое прышэсьце. Ужо нашымі днямі (на пачатку верасьня 1995 г.) одна з маіх знаёмых чачэнак сярэдняга веку апавядала мне пра тое, што яна бачыла сон, як расчыняецца нябеснае скляпеньне і адтуль па сходах спускаецца жывы Ісус. Ідэя пра другое прышэсьце Ісуса Хрыста распаўсюджаная ў чачэнцаў, хаця й ня так шырока, як сярод хрысьціянаў, але яўна шырэй, чымся сярод іншых мусульманаў.

У гады выгнаньня, а затым у хрушчоўскі і брэжнеўскі час, а таксама ў сярэдзіне 80-х рэлігійнае жыцьцё чачэнцаў занепадала. Бальшыня мячэцяў была або закрытая, або разбураная. Актыўнае аднаўленьне будаўніцтва мячэцяў пачалося толькі ў пару позьняй перабудовы напрыканцы 80-х. Дзіўным чынам працэс мусульманскага адраджэньня пайшоў вельмі хутка: будаваліся і будуюцца мячэці, у пэрыяд фактычнай незалежнасьці за прэзыдэнтам Дудаевым (у 1991-94 г.) у Грозным адкрыўся мусульманскі унівэрсытэт, бытавое захаваньне мусульманскай абраднасьці набыло блізу паўсюдны характар.

Традыцыйны суніцкі іслам, распаўсюджаны у Чачэніі, заўсёды быў трывала зьвязаны з суфійскімі брацтвамі Кадзірыя і Накшбанцыя, якія ў сваю чаргу дзяліліся на драбнейшыя адгаліненьні - разнастайныя вірды. Сёньня пераважная бальшыня чачэнцаў належыць да таго ці іншага вірду суфійскіх брацтваў. Хаця афіцыйнай статыстыкі пра разьмеркаваньне чачэнцаў па вірдах і брацтвах не існуе, тым ня менш, многія з чачэнцаў мяркуюць (раблю вывад на аснове асабістых гутарак у розных раёнах Чачэніі), што прыкладна 60 працэнтаў жыхарства належыць да вірду Кунта-хаджы брацтва Кадзірыі. Ён адметны гучным кругавым зыкрам-танцам са сьпяваньнем сьвятарных мусульманскіх формулаў і малітваў на чачэнскай мове. Абвостранае зацікаўленьне Чачэніяй, выкліканае вайной за незалежнасьць і прыкметным выездам чачэнцаў па навуку ў духоўныя

мусульманскія школы, прывяло да таго, што на мусульманскім Усходзе зыкар вірду Кунта-хаджы пачалі апошнім часам называць "чачэнскім", і адначасова ён быў прызнаны мусульманскімі аўтарытэтамі самастойным зыкрам, які адпавядае канонам Ісламу.

Мужчыны і жанчыны ў Чачэніі звычайна адпраўляюць зыкар паасобку. У кожнай мясцовасьці групы мюрыдаў, пасьлядоўнікаў таго ці іншага вірду, ачольваюцца мужчынам або жанчынай-туркхам, то бок пэўнаю асобай, адказнаю за адпраўленьне зыкру. Адзінае выключэньне - кадзірыйскі вірд Віс-хаджы, які ўвеў у рытуал свайго зыкру ня толькі музычнае суправаджэньне, але й выкананьне зыкру мужчынамі й жанчынамі.

Таму, каму даводзілася назіраць групы зыкрыстаў у чачэнскіх сёлах, надоўга запамятаецца незабыўнае ўражаньне ад выкананьня зыкру. Вясковыя мужчынскія і жаночыя групы мюрыдаў на чале са сваімі туркхамі - гэта зазвычай цудоўныя народныя калектывы, згуртаваныя магутнаю рэлігійнаю ідэяй. Аднаго разу з адным такім жаночым калектывам з паселішча Камсамольскі Наурскага раёну мы з калегам і сябрам Аляксеем Кудраўцавым ехалі аўтобусам з Паўночнай Чачэніі ў акупаваны фэдэральнымі сіламі Грозны, каб узяць удзел у дэманстрацыі з нагоды чацьвёртых угодкаў чачэнскай незалежнасьці (6 верасьня 1995 г.). Цягам усей нашай дарогі чачэнкі на чале з жанчынай-туркхам сьпявалі малітоўныя песьні. Я вельмі шкадаваў тады, што ня меў дыктафону і ня мог запісаць гэтага цудоўнага народнага хору. Уражвалі ня толькі глыбокія чыстыя галасы, але й тая духоўная энэргія, якую яны разьлівалі наўкола і ад якой проста тросься й дрыжэў заежджаны вясковы аўтобус.

Другім важным чыньнікам, што характарызуе вырастаньне ролі Ісламу ў сучаснай Чачэніі, уяўляецца імкненьне пашырыць сфэру выкарыстаньня шарыяту ці, прынамсі, некаторых яго элемэнтаў у грамадзкім жыцьці. Цікава, што гэтая тэндэнцыя рэзка памацнілася якраз пасьля пачатку баявых дзеяньняў у Чачэніі. У весну 1995 году, калі байцы чачэнскага супраціву змушаныя былі пакінуць Грозны і адступіць у горныя раёны, на тэрыторыях, што знаходзіліся пад контролем прыхільнікаў незалежнасьці, пачалі дзеіць шарыяцкія суды і выкарыстоўвацца пакараньні, прадугледжаныя шарыятам, перадусім за п'янства і продаж сьпіртавых напояў. Пакараньне за п'янства прадугледжвае 40 udараў палкай (агаворваецца, што для

біцьця выкарыстоўваецца гнуткая галіна). Апрача таго, нельга біць наводліў, можна толькі рукой, сагнутай у локці. Такім чынам, пакараньне ўяўляе сабою не катаваньне, а публічнае прыніжэньне за амаральны ўчынак. Продажам сьпіртнога ў Чачэніі звычайна займаюцца жанчыны. У гэтым выпадку, згодна з шарыятам, публічна караюцца ня самі парушальніцы, а хто-небудзь зь іхніх мужчынаў-сваякоў.

Часам здараюцца й стражэйшыя пакараньні. Пра адно зь іх падчас доўгага начнога расьпіваньня гарбаты ў Ведзяно 20 лістапада 1995 году мне і двум маім сябрам-журналістам расказаў Шаміль Басаеў. Адзін з найбольш аўтарытэтных лідараў чачэнскага супраціву паведаміў, што ў Вядзенскім раёне за хабарніцтва быў пакараны 102 ударамі палкі і арыштаваны прэфэкт Вядзенскага раёну, прызначаны марыянэткавым урадам Заўгаева. Шаміль Басаеў і іншыя палявыя камандзіры прызнаюць немагчымасьць выкарыстаньня шарыяту ў цяперашняй Чачэніі ў поўным аб'ёме. Апрача таго, гістарычна шарыят у Чачэніі заўсёды дапаўняўся і карэктаваўся адатам, гэта зн. мясцовым звычаем і цывільныя, а таксама дробныя крымінальныя справы вырашаліся на аснове выкарыстаньня сымбіёзу адата-шарыятных прынцыпаў.

Дзе пройдзе мяжа выкарыстаньня шарыяту ў прававой сыстэме пасьляваеннай Чячэніі, пакуль няясна. Многія сучасныя чачэнскія лідары, у прыватнасьці Аслан Масхадаў і Шаміль Басаеў, бачаць выйсьце ў спалучэньні шарыяту з адатам (звычаем) і сьвецкім правам.

Расейска-чачэнская вайна значна памацніла рэлігійныя пачуцьці чачэнскага народу. Разам з тым узброены канфлікт паміж Расеяй і Чачэніяй не набыў міжэтнічнага характару, а застаўся пераважна міжэтнічным. Гэта быў адзін зь нямногіх такога тыпу канфліктаў нашага часу, у ходзе якога не праводзіліся этнічныя чысткі. Чачэнскі народ у найцяжкім працістаяньні вялікай дзяржаве прадэманстраваў ня толькі яркія ўзоры сапраўднага гераізму, але й надзвычайную ўнутраную высакароднасьць і годнасьць, у аснове якіх ляжаць цвёрдая вернасьць духоўным каштоўнасьцям Ісламу і шматвяковым свабодалюбным горскім традыцыям.

Міхаіл Рошчын

"Наша Ніва" №1-2 (77)

13 студзеня 1997

# НАТАТКІ УДЗЕЛЬНІКА КАНФЕРЭНЦЫІ

27 і 28 сакавіка 1997 г. ў Менску адбылася Трэцяя міжнародная навукова - практычная канферэнцыя, якая абмяркоўвала праблему вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі. Каб не пакрыўдзіць чытачоў "Байрама" я нагадаю, што Першая міжнародная навукова - практычная канферэнцыя адбылася 26 і 27 сакавіка 1993 г. ў Менску, а тэма была "Татары - мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы"; Другая канферэнцыя таксама абрадавала ў сталіцы Беларусі 19 - 20 траўня 1995 г.

Першую канферэнцыю прыймалі ў Беларускім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, Другую - у Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур, а Трэцюю - ва Універсітэте культуры.

Мне пашчасціла дажыць да гэтага часу, калі і татарын можа чалавекам звацца і не адчуваць віну за наезды не зусім сваіх (манголы) і сваіх татарскіх продкаў, за трохсотгадовае "татарское иго" на Русі (на Беларусі гэтага іга, дарэчы, не было).

На Беларусі адзначаецца 600 - годдзе пасялення татараў - мусульман на землях Беларусі, Літвы і Польшчы, куды запрасіў іх Вітаўт Вялікі, надзяліў зямлёй і даверыў татарам - воям абараняць рубяжы вялікай краіны ад ваяўнічых, нярэдка драпежных суседзяў.

Перад кожнай канферэнцыяй я вельмі хваляваўся. Можа гэта таму, што ад прыроды палахлівец, а можа таму, што ўзрост ужо старэчы? А раптам начальства аддасць каманду "держать и не пущать, кабы чего не вышло", а раптам спрацуе "рыначны сацыялізм" і прапануюць такую аплату за памяшканне, такое месца, куды ні выступоўцы, ні слухачы не дойдуць, не даедуць. Але дзякуй Богу ўсё адбылося добра. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі універсітэт культуры, Беларускі рэспубліканскі фонд

фундаментальных даследаванняў, Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур - усе гэтыя высокія ўстановы, якія пазначаны на праграмцы, сапраўды ўнеслі вялікі ўклад у тое, каб выступоўцы і слухачы адчувалі сябе добра, каб яны маглі абменьвацца думкамі, выказваць прапановы, пакінуць свае думкі, якія будуць надрукаваны ў матэрыялах гэтай канферэнцыі.

Вядома, што найбольшы клопат з прыёмам гасцей, рассяленнем іншагародніх, арганізацыяй экспанатаў экспазіцыі татарскай матэрыяльнай і духоўнай культуры лёг на плечы кіраўнікоў універсітэта культуры. Перш за ўсё рэктара Ядвігі Грыгаровіч, прарэктараў Алеся Смоліка і Аляксея Пазнякова, дэкана Алега Трусава, загадчыка кафедры, прафесара Віктара Цітова.

Вялікі цяжар вынеслі выступоўцы: падрыхтаваць даклад (многім гэта каштавала некалькіх месяцаў напружанай працы), тады сядзець, слухаць і аналізаваць выступленні сваіх калег. І тут не скажаш, што хваляваліся толькі маладыя выступоўцы, хваляваліся ўсе.

Госці з Літвы, Польшчы, Расіі... Нам вельмі важна тое, як яны глядзяць на нашы праблемы. Як яны вырашаюць свае задачы на радзіме. Нават і спрэчкі паміж маладымі і пажылымі навукоўцамі, паміж дзеячамі культуры, вернікамі - усё гэта нам зразумела, усё гэта трэба перажыць.

Наша канферэнцыя праходзіла ў такой установе, дзе ёсць цудоўны калектыў спевакоў, музыкантаў, танцораў. Але нашы абрады праходзілі ў той час, калі ў хрысціян быў Вялікі пост.

Татары - мусульмане і тыя, каму было цікава паглядзець і паслухаць, як моляцца ў мусульман, паехалі ў Смілавічы, дзе нядаўна адчынілася новая мячэць.

Мір вам і міласць Усявышняга.

Я. Якубоўскі

***

# Татары на Беларусі: 600 гадоў гісторыі

Так назвала свой артыкул для штотыднёвіка "Современное слово" Наталля Бязвершанка.

Два дні, з 27 да 28 сакавіка ў Менску праходзіла Трэцяя міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Праблемы вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі". Ініцыятарамі яе правядзення выступілі Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", Беларускі універсітэт культуры, Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей і Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур пры садзеянні Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканскага фонду фундаментальных даследванняў.

На працягу першага дня канферэнцыі былі заслуханы даклады па гісторыі, этналогіі, лінгвістыцы, гістарыяграфіі, агульнатэарэтычных праблемах, якія прачыталі вучоныя Менска, Вільнюса, Масквы. А тэматыка навуковых паведамленняў аказалася сапраўды шырокая: гэта і татарская дыяспара ў кантэксце беларускай культуры, і геральдыка літоўскіх татараў, і мусульманства ў гісторыі Беларусі, і служба татар у складзе войска Вялікага Княства Літоўскага, і татарская нумізматыка, і цюркскія запазычанні ў беларускай мове.

Другі дзень канферэнцыі яе ўдзельнікі і госці правялі за "круглым сталом", дзе абмяркоўваліся праблемы гісторыі матэрыяльнай культуры татарскага народа на Беларусі, былі заслуханы вынікі даследванняў па асобных раёнах аседласці татараў, літаратурна-мастацкія нарысы, успаміны. Цікавымі былі даклады аб архітэктурных помніках татар-мусульман, у прыватнасці, аб Менскай, Слонімскай і Навагрудскай мячэцях. Пацешыла прысутных паведамленне пра тое, што атрыманы дазвол на ўзвядзенне мячэці ў беларускай сталіцы, а ў ліпені бягучага года адчыніцца адроджаная мячэць 19 стагоддзя ў Навагрудку.

У рабоце канферэнцыі бралі ўдзел вядомыя беларускія і замежныя вучоныя, грамадскія дзеячы, пісьменнікі: доктар Селім Хазбіевіч з Гданьску, дактары Р. Макавяцкас, Т. Байрашаўскайтэ, Г. Александровіч-Мішкінене, А. Высоцкіс з Літвы, Я. Сабалеўскі і Р. Сабалеўскі з Польшчы, доктар філалагічных навук з Масквы Аляксей Каўка, дактары гістарычных навук Віктар Цітоў, Леанід Лыч, Аляксандр Лакотка, Леанід Побаль, Эмануіл Іоффе – з Менска, народны пісьменнік Янка Брыль.

Арганізатары канферэнцыі паклапаціліся аб тым, каб надаць ёй не толькі навуковы, але і практычны характар. У яе рабоце прыняло ўдзел нямала прадстаўнікоў татарска-мусульманскіх абшчын, прычым не толькі ў якасці слухачоў, але і дакладчыкаў. Для папаўнення тэарэтычнага "багажу" удзельнікам і гасцям канферэнцыі быў прапанаваны вялікі выбар літаратуры па гісторыі, культуры татар Беларусі, Літвы і Польшчы.

Важнай падзеяй у гэтыя дні стала, бязумоўна, і адкрыццё экспазіцыі татарскай культуры, якая на працягу месяца будзе працаваць у адной з аудыторый Беларускага універсітэта культуры. Сярод яе экспанатаў – рукапісныя свяшчэнныя кнігі беларускіх татараў Аль-Кітабы, напісаныя па-беларуску арабскімі літарамі, некаторыя прадметы татарскага побыту, жывапіс Асановіча, Сайфугаліевай, Смольскага, Александровіч.

А ў заключны дзень работы канферэнцыі, у пятніцу (гэта штотыднёвы святочны дзень у мусульман) яе ўдзельнікі і госці паслухалі службу ў мячэці гарадскога пасёлка Смілавічы, якая была адчынена ў кастрычніку мінулага года.

***

# Ліст з Сопата

Ібрагімчык! Ліст і каштоўныя часопісы атрымаў. Вялікі, вялікі дзякуй!

У мячэці пасля джума Селім Хазбіевіч расказаў нам пра 3-ю Канферэнцыю, наогул аб усім, што зрабіла на яго вялікае ўражанне. Мой тэзіс, што духоўна татары Беларусі куды глыбейшыя за іншых, апраўдваецца поўнасцю. Зразумела, у вас таксама шмат адмоўных рысаў пасля даджалскай (шайтанскай) сістэмы, аднак ёсць такія пазітыўныя зрухі і ў вас. Селім гаварыў пра нашых людзей творчых, якія думаюць пра тое, каб добрае перамагло.

Госць у мяне быў. Кемлівы, цікавы малады чалавек. Шкада, у Навагрудку не давядзецца мне пабыць на ўрачыстым адкрыцці мячэці. У 30-х гадах я маліўся ў Навагрудскай мячэці, праводзіў вакацыі каля Іўя...

Дзякую за змяшчэнне матэрыялу ў вашым выданні, хоць там і пракралася адна памылка.

Сабалеўскі хоча, каб на 600-годдзі ў верасні прачытаў я асноўны рэферат пра гадавіну. Проста пухне галава, як гэта апрацаваць, каб асноўныя думкі былі патрэбнымі, каб на ...700-годдзе нашчадкі прызнавалі іх слушнымі. Гэта ж для масцітага філосафа толькі пад сілу. Шмат, шмат думак роіцца. Хочацца знайсці словы, якія дойдуць да закамянелых нашых сэрцаў.

25 сакавіка мелі гасцей. Было шампанскае, былі смачныя стравы, былі ружы.

Вельмі хочацца мне пабыць на з'езде беларусаў свету. Пастараюся.

А ты, браток, на верасень прыедзь да нас, на Сыракомлі (15 верасня 1862 г. памёр паэт). Лена Глагоўская ладзіць цікавую беларускую імпрэзу і канферэнцыю з удзелам беларускіх студэнтаў з Менска. Госці наведаюць дамы беларусаў і іх нашчадкаў. Я зраблю ў хаце выставу з розных нашых матэрыялаў, між іншым зберагліся бацькавы лісты з Першай сусветнай вайны, шматлікія фатаграфіі, адна з іх з 1904 г. перад адпраўкай на руска-японскую вайну, здымкі "Их августейших" царскіх асоб. Мне ўжо стукнула 70 гадоў. Мо інтэрв'ю правесці.

Пазнаёмішся з маёй бібліятэкай, рукапісным фондам. Перадам табе лісты С.Х.Александровіча, якія ён мне дасылаў. Іх шмат. Я ўжо не змагу іх апрацаваць. Губляюся ад мноства фактаў, адчуваю галаўную мітусню. Падвёў і "Ніву"... Хаця вось гэты артыкул нешта сведчыць "Татары на беларускі лад". Спяшаюся, аднак, мусіць ты ўжо вывучыў мой почырк, які патрабуе дэшыфрацыі быццам мова інкаў...

Калі наведаеш мяне, то зраблю споведзь своеасаблівую. Адчуваю ўсё-такі, што паволі жыццё завяршаецца. Гэта непазбежная з'ява, з ёй міруся. Таму наша сустрэча неабходная.

Моцна абдымаю цябе, жонку, Жамчужыну, Захара! Твой і ваш Муса.

***

# Нам даюць парады

**Аляксандр** з Мядзельшчыны. "Трэба, абавязкова трэба пісаць у "Байрам" пра тых, хто памёр. Пакуль чалавек быў жывы, дык яго ведалі. Няхай памятаюць, што ён ці яна гадавалі дзяцей, а можа і ўнукаў гадавалі, рабілі нешта добрае. Толькі мне здаецца, што нашы татары, якія праводзяць нейкія нарады, збіраюцца такімі невялічкімі кампаніямі, як калісьці феадалы. Пагаворацъ паміж сабою і толькі яны і ведаюць, аб чым была тая гаворка. Думаю, што і іншыя маглі б сказаць калі не такое ўжо і мудрае, але ва ўсякім разе слушнае. Не адкідайце гэта ад сябе, каб не засталіся зусім адны".

**Мурат** з Барысава. "Мая ўнучка выйшла замуж. Яе муж гандлёвец, купіў добры аўтамабіль, па любой дарозе можа праехаць. Вось і кажа ён мне: "Давай паедзем у Заходнюю Беларусь, адкуль ты родам. Шкада, што памерла твая жонка і мая бабуля, і мы не можам парадавацца усёй сям'ёй на прыгожыя краявіды. Але ўсё роўна паедзем". Няўжо я дажыву да таго дня, каб паехаць са сваімі роднымі на Наваградчыну, на Івейшчыну. А так хочацца. Але будзе тое, што заўгодна Аллагу".

**Якуб** з Менска. "Прэзідыум Менскага гарсавета пастанавіў перайменаваць наступныя вуліцы і завулкі: Венгерскі завулак – Берасцянскі завулак, Вялікая Татарская вуліца – вуліца Дзмітрава, Турэцкая вуліца – Беламорская вуліца, Турэцкі завулак – Беламорскі завулак, Кітайская вуліца – Усходняя вуліца, Кітайскі завулак – Усходні завулак, Яўрэйская вуліца – Калектарная вуліца, Затурэмны завулак – завулак Берсана, Персідскі завулак – Перамежны завулак, Козыраўская вуліца – Гогалеўская вуліца, Украінскі завулак – Рабкораўскі завулак". "Звязда", 25 красавіка, №90.

Пасля вайны, відаць, згубіліся Мала-Татарская (цягнулася ўздоўж Свіслачы і ў раёне Палаца спорту), Замячэтная (паміж Малой Татарскай і Людамонцкім завулкам, Амуратарская (можа Амуратаўская?). Магчыма, Турэцкая вуліца і завулак, Кітайская вуліца і завулак, Персідскі завулак нічога агульнага не мелі з гэтымі назвамі і з гэтымі народамі і не трэба было іх так называць, але каму пашкодзіў Украінскі завулак? Каму такой мілагучнай падалася назва Калектарная вуліца? Толькі думаю, што нашы папярэднікі не пераўзышлі да вайны нас у дурноце, бо яшчэ засталіся вялікія мажлівасці. Уперад! Цяпер вялікую прастору даюць назвы фірмаў, розных крамак, ансамбляў.

***

## Ибн Батта ал-'Укбари
## Аш-тарх ва-л-ибана 'ала усул ас-сунна ва-л-дийана

**("Истолкование и разъяснение основ сунны и религии")**

Я родилась до войны в мусульманской семье, но отца я не помню. Он ушёл на войну и не вернулся. Росла я у матери одна. Она была учительницей, и я также стала учительницей, преподавала математику. По рассказам мамы у её дедушки-муллы был муллинский хамаил, и он своим детям говорил: выполняйте всё, что написано в Кур'ане. А так как мы сунниты-ханифиты, то и Сунна нам обязательна и ни в чём нельзя усомниться. Если смысл Кур'ана я кое-как знаю (уже будучи на пенсии я недавно купила Кур'ан в переводе на

русский язык и прочла), то сунну и в глаза не видела, а только что-то слышала. Слышала от мамы, что нельзя мусульманам есть мясо свиньи, рыбу без чешуи – вьюнов, налима и угря. Этих рыб я видала, правда, только на рисунке.

Недавно мои подруги подарили мне на день рождения книгу "Хрестоматия по Исламу" (переводы с арабского, введения и примечания), издана в Москве в 1994 г. Хотя книга и на русском языке, но понимаю её может на четвертинку. Прочла всё, остановилась повнимательнее на статье Ибн Батта ал Укабри: Истолкование и разъяснение основ сунны и религии (страницы 87–107).

Что-то приблизительное и отдалённое от этого я слышала от мамы, а ей, видимо, перепало от родителей. Вот только удивительно, что я теперь прочла. Оказывается, что ханафитам рыбу без чешуи можно кушать, это только у шиитов рыбы без чешуи под запретом. Не к тому я пишу, что уж мне захотелось попробовать этой рыбы. Дожила до своих лет, дождалась внучат, мне бы и оставшиеся годы дожить без этой рыбы. Только вот начало подтачивать сомнение, а всё ли, что печатается в мусульманских странах, выдерживает проверку на мусульманскую прочность.

Я знаю, что у христиан-католиков в Риме была, а может и теперь действует, комиссия, которая читала книги и определяла, какие не нужно читать католикам. Особенно в СССР злобно нападали на эту комиссию – не даёт свободы людям, жалко их бедненьких, не могут всё читать. Некоторые и русский язык, даже и негры преклонных годов начинали изучать язык Ленина, чтобы всё познать.

Книга, которую я получила в подарок, дорога мне, но с мусульманских ли позиций она написана. Даже в ней самой, на странице 98, сказано, что "Книга начинается с прославления Аллаха, благодарности ему, неоднократного повторения молитвы по посланнику Аллаха, затем он (излагает) тонкости неверия, скрытый вымысел и зло. И молодой, ничего не знающий человек, перс или неискушённый подумает, что составитель этой книги – один из богословов или факих, и, возможно, признает в этой общине

то, что видят в ней идолопоклонники и те, кто соперничает с Аллахом и дружит с Шайтаном".

В этой статье есть ещё немало интересных мыслей, но всё переписать невозможно. Без хорошего мусульманского учёного это читать всё, я думаю, небезопасно. При малом объёме знаний просто и заблудиться. Может быть и мусульманам-ханбалитам, особенно тем, кто не знает арабского языка, чётко указывать на переплёте книги, для кого предназначена эта книга. Как принято в научной литературе, на первой странице напечатать несколько фамилий авторитетных богословов мусульман-ханбалитов, что эту книгу читать стоит, что она учит добру.

В заключение скажу, что моё письмо, по-видимому, выглядит смешно как письмо оторванного от татар, от мусульманства человека. Но может быть не такая уж единственная. Может есть и ещё подобные. Может мне можно чем-нибудь помочь?

*Амина из Могилёва.*

Адрес редакции "Байрама" известен.

***

# Змест